PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 20 (2088) Год XLI Беласток 19 мая 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

# XV Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі — Гайнаўка'96



**Праграма**

**19 мая (нядзеля) — гадз. 18⁰⁰** — адкрыццё фестывалю і інаўгурацыйны канцэрт у выкананні мінулагодняга лаўрэата — Хору Гомельскай дзяржаўнай філармоніі пад кіраўніцтвам Галены Сакаловай.

**21 мая (аўторак) — гадз. 11⁰⁰** — семінар для дырыжораў.

**Конкурсныя слуханні**

Свята-Троіцкі сабор у Гайнаўцы

**20 мая (панядзелак) — гадз. 17⁰⁰** — выступаюць хоры з Заблудава, Ярабіны (Славакія), Мошны (Украіна), Душнікаў-Здроя, Санока і Гайнаўкі.

**22 мая (серада) — гадз. 17⁰⁰** — хоры з Гайнаўкі, Златаношы (Украіна), Любліна, Нгеха (Кенія), Варшавы, Беластока, Бялграда (Югаславія).

**23 мая (чацвер) — гадз. 17⁰⁰** — хоры са Стакгольма (Швецыя), Віцебска (Беларусь), Варшавы, Ясаў (Румынія), Ноўгарада (Расія), Беластока і калектыў „Рамейка" з Філадэльфіі (ЗША).

**24 мая (пятніца) — гадз. 17⁰⁰** — хоры з Познані, Пружанаў (Беларусь), Цюрыха (Швейцарыя), Беластока, Санкт-Пецярбурга (Расія), Сопата і калектыў „Дар'ялі" з Тбілісі (Грузія).

**25 мая (субота) — гадз. 17⁰⁰** — калектывы „Кядрова" з Парыжа (Францыя) і Камернай оперы з Варшавы ды хоры з Сафіі (Балгарыя), Калінінграда (Расія), Кіева (Украіна), Ерэвана (Арменія) і Мінска (Беларусь).

**Заканчэнне фестывалю**

**26 мая (нядзеля):**

— **гадз. 11⁰⁰** — аб'яўленне вынікаў конкурсу ў Калоннай зале Гайнаўскага дома культуры;

— **гадз. 13⁰⁰** — І гала-канцэрт у Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы;

— **гадз. 18⁰⁰** — ІІ гала-канцэрт у Дзяржаўнай філармоніі ў Беластоку.

Гайнаўскаму фестывалю спадарожнічаюць многія мерапрыемствы. У іх рамках адбудуцца між іншым канцэрты ўдзельнікаў фестывалю ў наваколлі Гайнаўкі, у Беластоку, Варшаве і Кракаве, міні-фестываль у Свята-Духавай царкве ў Беластоку, а таксама тэматычныя выстаўкі.

# За свабоду Беларусі

**Пікет**

1 мая г.г. а 10 гадзіне перад Генеральным консульствам Рэспублікі Беларусь у Беластоку сабраўся пікет. Удзельнікі развінулі тры транспаранты з заклікамі: **Жыве Беларусь**, **Свабода арыштаваным** ды **Przemoc i tak przegra z wolnością**. Выступілі прадстаўнікі ад арганізатараў пікета.

Алег Латышонак ад Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Польшчы прыгадаў прысутным акалічнасці шэсця „Чарнобыльскі шлях" у Менску 26 красавіка г.г. і жорсткую расправу міліцыі з дэманстрантамі, якія, паводле А. Латышонка, мелі права дамагацца ад свайго ўрада палягчэння лёсу людзям пацярпелым у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС 10 гадоў таму. Адказам улад былі дубіны і арышты дзеячаў беларускай апазіцыі.

Яўген Вапа ад Беларускага саюза ў Польшчы выказаў надзею, што арышты і рэпрэсіі ў Беларусі закончацца, а суседам і палякаў, і беларусаў у Польшчы будзе незалежная Беларусь.

Пасол Артур Смулка ад Уніі працы звярнуў увагу, што атмасфера, у якой адбываюцца арышты і расследаванні ў Менску, нагадвае ваеннае становішча ў Польшчы. Унія працы, сказаў ён, намерваецца адчыніць у Беластоку інфармацыйнае бюро, якое збірала б інфармацыю пра арыштаваных дзеячаў беларускай апазіцыі ў выпадку, калі рэпрэсіі ў Беларусі будуць працягвацца.

Удзельнікі пікета ў час яго трывання выкрыквалі заклікі „Жыве Беларусь" і „Спыніць рэпрэсіі". У час пікета збіраліся подпісы пад пратэстам супраць рэпрэсій і парушэння правоў чалавека ў Беларусі. Пікет завяршыўся спаленнем партрэта прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, па загаду якога міліцыя і АМОН 26 красавіка г.г. распраўліся з удзельнікамі шэсця „Чарнобыльскі шлях" у Менску.

**Канферэнцыя ў Консульстве**

6 мая г.г., калі завяршыўся святочны перапынак у Польшчы (у Беларусі ён яшчэ трываў у сувязі з Днём Перамогі), Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь у Беластоку склікала прэс-канферэнцыю, на якой было прадстаўлена афіцыйнае становішча ўрада Беларусі ў сувязі з пікетам пад беластоцкім консульствам.

1 мая ў 10 гадзін, сказаў на канферэнцыі генеральны консул Рэспублікі Беларусь **Міхаіл Слямнёў**, каля будынка Консульства адбыўся пікет як рэакцыя на падзеі ў Мінску 26 красавіка. Пікет, як мы даведаліся, арганізаваўся шэрагам партый: Уніяй працы, Беларускім саюзам, Беларускім дэмакратычным аб'яднаннем. Актыўным удзельнікам падрыхтоўкі пікета, які завяршыўся спальваннем дзяржаўнага сімвала — партрэта прэзідэнта Беларусі, быў прадстаўнік вышэйшага заканадаўчага органа Польшчы. У сувязі з гэтым Пасольства Рэспублікі Беларусь даслала ў Міністэрства замежных спраў Польшчы пратэст. Аналагічны пратэст быў накіраваны Консульствам у Ваяводскую ўправу ў Беластоку.

У далейшым генеральны консул запыніўся на некаторых момантах гэтага пратэсту. Удзельнікі пікета дапусціліся зневажальных выказванняў пра прэзідэнта Беларусі і спалілі ягоны партрэт. Публічная знявага дзяржаўнага сімвала Беларусі ўспрымаецца як спроба паслаблення двухбаковых адносін паміж Польшчай і Беларуссю. Здзяйсненне выклікае бяздзейнасць беластоцкіх праваахоўных органаў.

Ад сябе ўжо М. Слямнёў дадаў, што ў знак пратэсту ў свеце робяцца розныя рэчы: рвуцца і паляцца партрэты, кнігі, а нават зневажаюцца магілы. Сёння нікога гэта не здзіўляе. Гэта аднак сведчанне не надта высокай культуры выканаўцаў. Калі робяць гэта немаўляты або п'янюгі — усё зразумелае, сказаў консул.

На пытанне пра змест лозунгаў, якія трымалі пікетчыкі, консул адказаў, што заклік „Свабода арыштаваным" зусёды гуманітарны, але з другога боку — падзеі 26 красавіка ў Менску да канца не разгледжаны следчымі органамі. Вядома, паведаміў консул, што пасля гэтых падзей за медыцынскай дапамогай звярнулася 30 функцыянераў праваахоўных органаў і 19 дэманстрантаў. 200 удзельнікаў шэсця было затрыманых, большасць якіх ужо адпушчана. Маюцца доказы, што прадстаўнікі

*(працяг на стар. 4)*

# Мы прачыталі

*W Rosji bezlitosną kapitalistyczną konkurencję rozumie się dosłownie: do rywala wysyła się kilku wynajętych mafiozów, którzy strzelają do konkurenta dopóty, dopóki nie mają pewności, że go zabili. Tak właśnie działają rosyjskie „techniczne metody przetrwania”. Z punktu widzenia ukształtowanej etyki świata zachodniego, są to zjawiska wstrząsające.*

*W końcu lat 80. w większych miastach b. ZSRR prawie 30 proc. noworodków trafiało do sierocińców, gdyż rodzice nie odbierali ich ze szpitala. Jak można oczekiwać sympatii lub choćby litości dla pracownika, konkurenta czy przeciwnika politycznego, jeśli tych ludzkich cech nie ma się w stosunku do swoich najbliższych.*

*Wprost, nr 16*

* * *

*W tej chwili, generalnie rzecz biorąc, politycy i ludzie zajmujący się kasą państwową kulturę mają w... głębokim poważaniu. Dlatego między innymi tak groteskowe są akcje typu protest głodowy śpiewaków operowych we Wrocławiu. Z punktu widzenia urzędnika, strajk artysty jest rzeczą korzystną, bo tanią: gdyby taki jeden z drugim wydzierał się ze sceny, to kosztowałoby to koszmarne pieniądze. Stąd lepiej, że ułożył się na materacu i głodował,* — сказаў Пётр Тамашук, рэжысёр тэатра „Вершалін”.

*Kurier Poranny, nr 89*

* * *

*Degrengolada Sowietów pod koniec ery Breżniewa była oczywista. Stąd nasi Partyjniacy postanowili oderwać się od Moskwy i wybudować na nowo euro-socjalizm, podczas gdy Bezpieczniacy skłaniali się ku modelowi gen. Pinocheta. O wszystkim rozstrzygała postawa gen. Jaruzelskiego, który opowiedział się za euro-socjalizmem, odrzucając model wprowadzania siłą neo-kapitalizmu. Struktury SB jednak trwały na stanowiskach i kierowały agenturą zwaną „Solidarność”.*

*Bezpieczniacy przewodzili tłumowi ogłupionych „solidarników”, Partyjniacy tłumowi ogłupiałych klientów dawnego reżimu. Obydwie strony zakładały, że przez wiele lat będą ciągnęły zabawę „raz wygrywamy my, socjaliści, raz wygrywacie wy — anty-socjaliści”. Oczywiście nikt nie miał zamiaru ruszać socjalizmu, z setkami tysięcy posad, zapewniających możliwość brania łapówek. Liczba posad jest jednak ograniczona. Za rządów „S” zwiększyła się o 40% i nadal rośnie. Nie można ukraść wszystkich pieniędzy. Toteż walka zaczęła się zaostrzać. Część Partyjniaków — z Cimoszewiczem i Kwaśniewskim na czele — zgrzytała zębami patrząc na gospodarkę Bezpieczniaków: raz, że nie lubią kapitalizmu, dwa, że tamci za dużo kradli. Przesilenie nastąpiło przy wyborach prezydenckich. Bezpieczniacy, jak wiemy, przegrali,* — піша Януш Корвін-Мікэ.

*Najwyższy Czas, nr 15*

* * *

*Лукашэнка робіць нетрадыцыйныя крокі. У такой сітуацыі кожны палітык павінен паказаць вельмі высокі ўзровень майстэрства: каб захаваць суверэнітэт дзяржавы і Канстытуцыю, не быць здраднікам. І ў той самы час зрабіць так, каб наша моладзь не пайшла ў лясы. А некаторыя заявы на мітынгах сведчаць, што невялікая колькасць радыкальна настроенай моладзі блізка гэтага,* — сказаў старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах Беларусі Пётр Краўчанка.

*Наша ніва, н-р 6*

* * *

*Pojawiło się wiele publikacji, które ujawniły prawdziwe oblicze szowinistów prawosławnych i nacjonalistów ruskich, antagonizujących środowisko białostockie,* — напісана ў камюніке каталіцкай мітрапалітальнай курыі ў Беластоку ў справе ўласнасці Супрасльскага манастыра.

*Gazeta w Białymstoku, nr 95*

Камюніке чыталі ва ўсіх касцёлах Беласточчыны. Паводе яго аўтараў, змяшчае яно волю экуменізму каталіцкага боку.

* * *

*Większość mieszkańców świata nadal podlega normom prawnym, przewidującym śmierć jako najwyższy wymiar. W krajach islamskich karę śmierci może wymierzyć kobiecie mąż, ojciec, dziadek lub brat nawet za „prowokacyjny” uśmiech do kuzyna. Ciężko chora siedemnastoletnia dziewczyna została zabita, ponieważ pozwoliła się podwieźć sanitariuszowi na motocyklu, a jej matkę podobna kara spotkała za to, że nie upilnowała córki. Irański ajatollah Mohammad Jandi przypomniał niedawno, że nie wolno podrzynać gardeł kobietom, które łamią prawa czystości, lecz należy je kamienować. W Chinach liczba skazanych na karę śmierci wynosi rocznie 10-12 tys. Egzekucje wykonuje się tam publicznie, na stadionie, strzałem w tył głowy. Nagminną praktyką w tym kraju jest pobieranie organów do przeszczepów z ciał skazańców. Wyroki wykonuje się także wtedy, gdy ktoś z dygnitarzy lub ich rodzin potrzebują nerek, wątroby lub serca do przeszczepu. W USA egzekucja jest wykonywana w obecności kata, inspektora więzienia, przedstawicieli organizacji społecznych, prawników, dziennikarzy oraz rodziny ofiary. Coraz częściej mówi się także o możliwości telewizyjnej transmisji egzekucji.*

*Wprost, nr 17*

Амерыканскія фільмы для дзяцей гэта ўжо азы маладога садыста. Арыгінальная шыбеніца ў вячэрняй праграме для дзяцей, а раней рэклама „снікерсаў” і „кока-колы” будуць цікавым спалучэннем свабоднага рынку і гуманітарызму.

# З мінулага тыдня

**Прэзідэнт Аляксандр Квасьнеўскі** 3 мая, у прысутнасці маршалкаў Сейма і Сената, міністраў абароны і замежных спраў ды шэфа Генеральнага Штаба, прысвоіў генеральскія званні дзесяці асобам. **Чын генерала брыгады атрымаў таксама архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава — праваслаўны ардынарый Войска Польскага.**

**Польскі ПЭН-Клуб** пераслаў беларускаму ПЭН-Цэнтру тэлеграму, у якой напісана: „Мы аб'ядноўваемся з Вамі духова ў тыя цяжкія для Вас дні. Прыміце словы нашага захаплення, дружбы і братэрскай салідарнасці”. Старшыня беларускага ПЭН-Цэнтра, выдатны беларускі пісьменнік **Васіль Быкаў**, атрымаў запрашэнне наведаць Польшчу.

**Пасольства Рэспублікі Беларусь** у Варшаве і Генеральнае консульства РБ у Беластоку спаленне партрэта прэзідэнта **Аляксандра Лукашэнкі** падчас першамайскага пікета перад будынкам Генконсульства палічылі знявагай вышэйшых прадстаўнікоў улады, аганьбаваннем сімвалаў Беларусі і спробай паслаблення добрасуседскіх адносін паміж Польшчай і Беларуссю. У гэтай справе Пасольства РБ выслала афіцыйны пратэст Міністэрству замежных спраў, а Генеральнае консульства — Ваяводскай управе *(пра пікет чытайце на стар. 1 і 4)*.

**Віктар Бурскі** — надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы, сустрэўся з беластоцкім ваяводам **Анджэем Гаеўскім**. Галоўнай тэмай перамоў былі магчымасці пашырэння гаспадарчага супрацоўніцтва паміж Беластоцкім ваяводствам і прыгранічнымі абласцямі Беларусі. На думку пасла, гэтыя магчымасці даволі вялікія і могуць прынесці карысць абодвум бакам, доказам чаго можа быць дзейнасць прадпрыемства „Пронар” у Нарве. Беларускі бок прапанаваў наладзіць супрацоўніцтва паміж беларускімі жывёлагадоўчымі фермамі і Беластоцкім мясакамбінатам. Перад сустрэчай пасол у размове з беластоцкімі журналістамі сказаў, што прэса ў сваіх публікацыях перавялічыла здарэнні, якія адбыліся падчас апазіцыйнай дэманстрацыі 26 красавіка ў Менску. Выказаў ён таксама здзіўленне, што пікет, які адбыўся 1 мая перад Генеральным консульствам РБ у Беластоку, не быў спынены праваахоўнымі органамі (у гэтым месцы трэба прыгадаць, што арганізатары пікета супраць антыдэмакратычных дзеянняў прэзідэнцкай каманды ў Беларусі мелі дазвол гарадскіх улад на яго правядзенне). Пасол РБ наведаў таксама рэдакцыю „Нівы” і прадпрыемства „Пронар” у Нарве.

**Раённая управа ў Беластоку**, выконваючы рашэнне Управы Рады Міністраў, 29 красавіка г.г. перадала праваслаўнаму прыходу ў Супраслі пляц і будынкі **Супрасльскага манастыра**.

**Футбольны матч** паміж зборнымі камандамі **Польшчы і Беларусі**, які адбыўся ў Мельцы, закончыўся нічыёй 1:1 (1:0). Гол у беларускія вароты забіў у 8 мінуце **Войцех Кавальчык**. Беларускія футбалісты выраўнялі страту ў другой палове матча, калі **Пятро Качура** ў 61 мінуце нанёс паспяховы ўдар з васьмі метраў па варотах праціўніка.

**У Свята 3 Мая**, падчас ускладання кветак да помніка Юзэфа Пілсудскага ў Беластоку, групка мужчын выкрыквала непрыязныя воклічы ў адносінах да некаторых удзельнікаў цырымоніі. У адрас дэлегацыі Саюза левых дэмакратаў накіраваны былі воклічы: „Камуна далой” і „Кацапы дадому”, а ў бок прадстаўнікоў Уніі вольнасці — „У Ізраіль”.

**У Беластоку** паліцыя ліквідавала друкарню, у якой выпускаліся фальшывыя галандскія, польскія і беларускія аўтамабільныя пасведчанні. Пяць чалавек трапілі пад замок, а за дзвюма асобамі вядзецца росшук, у тым ліку за курдам, грамадзянінам Турцыі, які быў галавой гэтай здзелкі.

# Весткі з Беларусі

**Падвядзенне вынікаў**

29 красавіка прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка правёў нараду з кіраўнікамі шэрагу міністэрстваў і ведамстваў, на якой абмяркоўваліся вынікі мерапрыемстваў, прымеркаваных да 10-годдзя аварыі на Чарнобыльскай АЭС. На нарадзе адзначалася, што 26 красавіка — жалобны для ўсяго беларускага народа дзень, быў „азмрочаны безадказнымі і правакацыйнымі дзеяннямі асобных палітыкаў, якія арганізавалі несанкцыянаванае шэсце”. Сярод іх называліся намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка, дэпутаты Станіслаў Шушкевіч, Станіслаў Багданкевіч, Павел Знавец, Уладзімір Дабравольскі, кіраўніцтва Беларускага народнага фронту на чале з Зянонам Пазьняком. Кіраўніцтва Міністэрства ўнутраных спраў атрымала папрок за тое, што дазволіла Пазьняку ўцячы, а генеральны пракурор быў нават названы „стаўленікам БНФ”. У адносінах да арганізатараў і актыўных удзельнікаў беспарадкаў пракуратура ўзбудзіла крымінальныя справы.

**Абвінавачанне Юрыя Хадыкі**

Намесніку старшыні Беларускага народнага фронту Юрыю Хадыку ў прысутнасці адваката было выстаўлена афіцыйнае абвінавачанне паводле арт. 186, пкт. 3 Крымінальнага кодэкса, які за арганізацыю або актыўны дзеянні ў часе несанкцыянаваных мітынгаў і шэсцяў прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тры гады альбо папраўчыя работы з тэрмінам у два гады, альбо штраф. Юры Хадыка, як і яшчэ адзін арыштаваны сябра Сойму БНФ Вячаслаў Сіўчык, працягваюць галадоўку. Медыцынскія работнікі да галадоўшчыкаў дапушчаны не былі. У знак салідарнасці галадоўку на волі праводзяць іхнія жонкі.

**Пакаранне дэманстрантаў**

У Менскім гарадскім судзе разглядаліся справы 65 чалавек, затрыманых падчас падзей 26 красавіка ў сталіцы. У выніку гэтага разгляду 35 чалавек падвергнуты адміністрацыйнаму арышту на тэрмін ад 3 да 15 сутак. Аштрафаваны 14 чалавек на суму ад 2 да 5 мінімальных зарплат. 15 спраў пакуль не разгледжаны, бо затрыманыя патрабуюць выклікаць іх асабістых адвакатаў, а грамадзяне Украіны — перакладчыкаў.

**Два меркаванні**

Падзеі, што адбываліся ў Менску 26 красавіка не дазваляюць спадзявацца на хуткае прыняцце Беларусі ў Савет Еўропы, — заявілі на прэс-канферэнцыі ў Вярхоўным Савеце ўдзельнікі сесіі Міжпарламенцкай Асамблеі Савета Еўропы Юры Малумаў, Пётр Краўчанка і Сяргей Калякін. Віцэ-спікер Ю. Малумаў нават падкрэсліў, што такія рэчы дапушчальны ўсе 364 дні ў годзе, акрамя 26 красавіка. А вось Сяргей Калякін прывёў прыклады Албаніі, Турцыі і Харватыі, дзе — на яго думку — правы чалавека парушаюцца куды больш сур'ёзна, чым на Беларусі, але гэта не перашкодзіла ім стаць членамі буйнейшай міжнароднай арганізацыі.

**Прэзідэнт-лаўрэат**

У Маскве адбылося ўзнагароджанне лаўрэатаў прэміі Андрэя Першазванага. Лаўрэатамі за 1995 год сталі: прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, духоўнік Свята-Троіцка-Сергіевай лаўры архімандрыт Кірыл, адмірал расейскага флоту Ігар Касатонаў, прэзідэнт Сербіі Радаван Караджыч і іншыя. Аляксандр Лукашэнка ўдастоены ўзнагароды за заслугі па ўз'яднанні славянскіх народаў.

**Дзве навіны**

Май прынёс жыхарам Беларусі не вельмі прыемную навіну — чарговае павышэнне жыллёвых тарыфаў. Плануецца, што неўзабаве кватрплата ўзрасце ў 1,7 раза, кошт ацяплення і гарачай вады — у 1,4 раза, халоднай — у 2—2,5 раза. Больш прыемнай навіной быў шчодры падарунак для пенсіянераў. Прэзідэнт падпісаў указ, які дазваляе гэтай катэгорыі грамадзян бясплатна карыстацца прыгарадным чыгуначным і аўтамабільным транспартам. Указ, аднак, распаўсюджваецца на тэрміны 1—31 мая і 1—31 верасня 1996 г.

**Сабака ўнюхаў нелегалаў**

Цікавае затрыманне парушальнікаў граніцы адбылося на ўчастку Гродзенскага пагранічнага атрада. Пры афармленні аўтобуса „Неаплан”, які ішоў праз КПП Брузгі, вялікую пільнасць праявіў сабака, які ўнюхаў, што ў салоне аўтобуса апрача трох грэчаскіх пасажыраў ёсць нехта яшчэ. У выніку стараннага агляду, праведзенага сумесна беларускімі і польскімі пагранічнікамі, былі выяўлены тры схованкі, выробленыя ў заводскіх умовах. Там хавалася шаснаццаць грамадзян Шры Ланкі.

# Неўзабаве ў „Ніве”

- **„Матуры” ў Гайнаўскім і Бельскім ліцэях з беларускай мовай навучання.**
- **Пушчанская неразбярыха** — спрэчкі вакол Белавежскага нацыянальнага парку.
- **Адэса — горад „самостійної” України** — рэпартаж Алега Латышонка.

# Спозненая вясна

1 красавіка над часткай Беласточчыны разгулялася мяцеліца. Людзі жартавалі, што сёлета замест Вялікадня будзем адзначаць Раждзжаство. Зіма адыходзіла марудна, заносячы гурбамі снегу дарогі і сцежкі. Два чарговыя дні, хаця бясснежныя, прайшлі яшчэ пад знакам зімы. Пачынаючы з 4 красавіка тэмпература паветра паднялася да +10°С, што выклікала гвалтоўнае раставанне тоўстага снежнага покрыва. За некалькі дзён снег амаль поўнасцю знік, у выніку чаго павысіўся ўзровень вады ў рэках і равах. У Гайнаўцы разлілася рэчка Лясная-Правая. Заліла палі таксама Арлянка і яе прыток Орля. У некаторых гмінах створаны былі супрацьпаводкавыя камітэты. Вада стыхійна вылілася на палявыя дарогі, замяняючы іх у быстрыя ручаі. На гарадскіх вуліцах вада не паспявала сплываць цераз замерзлыя каналізацыйныя калектары, ствараючы вялізныя калюжыны. Аднак найхутчэй снег прапаў у гарадах. Горш было на палях і ў лясах.

На лугах напоўніліся вадой поймы. Па гравійках і лясных дарогах пераехаць было вельмі складана. Але тут жа ўсюды відны былі прызнакі вясны. 2 красавіка, калі зямля хавалася яшчэ пад гурбамі снегу, над Гайнаўкай ляцелі дзікія гусі. У нядзелю, 7 красавіка, упершыню ўбачыў я бусла ў ваколіцы вёскі Вэрсток. У лесе пачалі адзывацца лясныя птушкі. Каля Дубіч-Царкоўных 10 красавіка сустрэў я чорнага бусла і лятучую чародку гусей.

Калі ўзровень вады стаў паніжацца, 12 красавіка надвор'е памянялася. Увесь дзень ішоў дождж са снегам, а ноччу выпаў снег. У суботу, 13 красавіка, Гайнаўка пакрылася 15-сантыметровым слоем снегу. У велікодную нядзелю раніцай таксама выпаў снег. Вялікдзень прыйшлося праводзіць у зімовай атмасферы. Такога не памятаюць нават самыя старыя жыхары Гайнаўшчыны.

Сапраўды веснавым днём стала 18 красавіка, хаця і тады можна было яшчэ сустрэць на палях і дарогах лапіны снегу. А ў Чэхах-Арлянскіх снег месцамі займаў палову вуліцы. У нядзелю, 21 красавіка, на Провады, тэмпература перасягнула +20°С у цяні. На працягу трох наступных дзён расцвілі пралескі, фіялкі, анемоны. 26 красавіка зацвіла лотаць. Рэшткі снегу ва ўпадзінах дзе-нідзе захаваліся да канца месяца.

29 красавіка над Дубічамі прайшла першая бура з градам. Вясна з'явілася позна, але хутка наганяе страчанае. Навокал усё ўжо зелянее, так як у маі і быць павінна.

**Славамір Кулік**

# Хто нас абдурвае?

Ужо некалькі разоў я кранаў справу скупкі шклатары ў Чаромсе. Зараз хачу сказаць, што праблему ў нейкі спосаб удалося мне ўпарадкаваць. Перад Вялікаднем мяшок бутэлек загрузіў я на аўтамабіль і завёз у Бельск-Падляшскі. Іншыя (такую ж колькасць) абяцала прыняць прадаўшчыца ў чаромхаўскай краме (даўнейшы „Паўшэхны"). Хачу прытым сказаць, што вельмі смешнай здаецца мне цана за адну штуку — 500 старых злотаў. І ў Бельску-Падляшскім, і ў Чаромсе яна аднолькавая.

Хто ўстанавіў яе? Ад каго гэта залежыць? Залог гандляры бралі ад людзей па тысячы старых злотаў, а зварочваюць на палову менш.

На маю думку, чалавек не мае выхаду. Калі хочаш пазбыцца парожніх бутэлек, дык будзеш аддаваць іх за такія грошы, якія прапануюць у краме. Адным словам — танцуеш, як іграюць!

Недарма людзі кажуць: „Як не кіем, дык палкай".

Як знойдзеш, дзе прадаць посуд, дык і так страціш, бо вернуць табе толькі палову грошай. І так абдураць, і так абдураць! **(ус)**

# Нават слядоў не пакінулі

Яшчэ ў нядаўнім мінулым на чаромхаўскай станцыі працавалі палякі з рускімі. Тут перадаваліся транзітныя гандлёвыя саставы паяздоў агентам СЖД, а ваенныя цягнікі былі пад наглядам афіцэраў ЗКУ, г.зн. ваеннай камендатуры.

Рускіх агентаў прывозілі кожны дзень на змену дрызінай са станцыі Высокае. Савецкія афіцэры жылі на месцы. У першыя дні іхняй работы афіцэрам ЗКУ прызначылі кватэры ў Гайнаўцы і адтуль яны прыязджалі ў Чаромху. Пасля пабудавалі ім жылы корпус у Чаромсе. Тут пасяліліся пяць сем'яў.

У рускім корпусе была пабудавана лазня — сапраўдная руская паравая лазня, у якой бярозавым венікам мог чалавек абагнаць з плеч увесь бруд.

Калі стала ўсім вядома, што рускія выедуць з Чаромхі, пасыпаліся заяўкі на кватэры. Прыцягвала іх менавіта гэтая лазня. Былі нават з Цэнтральнай чыгуначнай дырэкцыі ахвотныя ў начальнікі ў Чаромху, паколькі думалі, што там корпус з усялякімі выгадамі ўнутры — лазняй і купальным басейнам. Але варшавякі, убачыўшы, як справа маецца ў сапраўднасці, не адважыліся памяняць сталіцу на Чаромху.

Меў я нагоду ўласнымі вачыма аглядаць развітанне апошніх савецкіх афіцэраў з Чаромхай, а перад усім з жылымі кватэрамі. Палякі і рускія расцягвалі мэблю, штукатурку, электрычны кабель. А што з лазняй? Як мне сказаў адзін з цяперашніх жыхароў корпуса, лазню разбурылі яшчэ да ўваходу ў корпус новых кватарантаў. Нічога не пакінулі.

— А мы згодны былі нават паставіць за свае грошы лічыльнікі вады, — кажуць кватаранты, — каб можна было разлічыцца з дырэкцыяй.

— Гэта нашы чаромхаўскія начальнікі так зрабілі, — з сумам у голасе казаў мне К. Мазурык.

Нядаўна сустрэў я знаёмага начальніка, адказнага на чыгунцы за кватэры, і папытаў яго, чаму разабралі лазню.

— Гэта Цэнтральная дырэкцыя дала загад ліквідаваць лазню ў жыллёвым корпусе „па рускіх" па эканамічных прычынах. У лазні купалася ўсяго 40—50 асоб у месяц. Кошты ўтрымання вялікія. Каб лазня была рэнтабельная, трэба было б патрабаваць ад адной асобы каля 10 зл. (100 тыс. старых злотаў). Такой сумы напэўна ніхто не заплаціў бы...

Якая тут праўда, цяжка сказаць. Адно ведаю напэўна — чыноўнікі Цэнтральнай чыгуначнай дырэкцыі ў Варшаве зрабілі ўсё, каб следу па рускіх не пакінуць.

**Уладзімір Сідарук**

# І як тут жыць?

Колькі ж гэта разоў краналася праблема патаемнага гандлю гарэлкай у Чаромсе? Цяжка злічыць! Пры камуне, у пасёлку, „працавалі" многія „манапалькі". У кожнае з іх была свая мянушка. І так, напрыклад, у „Прывакзальнай", можна было купіць гарэлку без лішніх клопатаў. Прадавалі ўсім, знаёмым і незнаёмым. У „Дзядка" прадавалася толькі „сваім", прывілеяваным. „Пад Сучкай" знаходзілі прыстань тыя, хто дамоў не спяшаўся і хацеў крышачку „пазабаўляцца". А колькі было невядомых, без назваў? Гаварылася ў тым выпадку: „Ідзем да бабкі".

Не толькі ў Чаромсе існаваў патаемны гандаль гарэлкай. У кожнай вёсцы вялі сваю дзейнасць па некалькі прытонаў. Хапіла паглядзець у дзень палучкі, або ў час танцавальных вечарын у вёсцы, як шнурочкам, адзін за другім, прыгорбіўшыся, падкрадаліся аматары спіртных напіткаў пад хаты сваіх „збавіцеляў". Траплялiся і адважныя, якія займаліся самагонаварэннем. Аднак гэтыя „працавалі" амаль непрыкметна, бо тадышняя міліцыя моцна за гэта штрафавала.

Зараз у Чаромсе няма ўжо прытонаў „Прывакзальная", „У Дзядка" ці „Пад Сучкай". Але патаемны гандаль гарэлкай не спыніўся. Можна яе дастаць у любую пару дня і ночы. За палову дзяржаўнай цаны! За адзіныя 120 тысяч старых злотаў дастанеш літроўку і „налівжашся" (так у нас кажуць) як жаба мулу. Найбольшы гандаль квітнее ў цэнтры Чаромхі, на рыначку. Тут ад рускіх аж кішыць! Хоць і мясцовыя таксама выходзяць. Ужо аж непрыемна заходзіць на рыначак і слухаць суайчыннікаў з-за мяжы, якія рэкамендуюць свой „тавар" палякам. Не пройдзеш спакойна, каб нейкі „турыст" не прапанаваў табе: „Купі пан водку". Не толькі мужчынам рэкамендуюць. Жанчынам у сярэднім узросце, а нават старэйшым, таксама. Аднойчы мая знаёмая сказала, што чаромхаўскія жанчыны хацелі ўжо назойлівых „турыстаў" пагнаць з рыначку разам з іхняй гарэлкай, бо яны толькі іхніх мужыкоў распіваюць.

— Адну бяду маем толькі з гэтымі рускімі, — кажуць жанчыны. — Саветкі зарабляюць на нашых немалыя грошы. Разжываюцца. А нам хоць жыўцом у магілу лезь. Мужыкі п'юць, сыны п'юць. І як тут жыць? Апошні грош з кішэні выцягваюць. Бадай бы іх пекла праглынула!

Сумнае гэта, аднак праўда!.. На маю думку, справа не так ужо вельмі складаная. Хопіць крышачку галавой павару шыць мясцовай паліцыі і самаўраду.

**К. Млынарскі**

У Бельску

## Ашчадныя ўлады

У мінулым годзе Управа Бельска-Падляшскага планавала гарадскі даход на суму 8 581 278 новых злотаў, а расходы на 9 313 864 злотаў. У сапраўднасці ў касу горада паступіла 9 145 767 злотаў, што абазначае 106,6% плана. Затое выдаткаў быў ніжэй запланаванага — 9 184 100 злотаў (98,6%).

Рэвізійная камісія сцвердзіла, што гэтыя лічбы паказваюць бюджэтную дысцыпліну і аднагалосна прапанавала Гарадской радзе адобрыць працу Управы. Мінулагодняя дзейнасць Гарадской управы была, аднак, адобрана толькі галасамі Бельскай кааліцыі. Апазіцыйная „Jedność" устрымалася ад голасу.

## Больш цэркваў

У Бельску-Падляшскім цяпер тры драўляныя, гістарычныя царквы: Прачысценская, Міхайлаўская і Васкрасенская. Неўзабаве будуць будавацца дзве новыя. Адна пры вуліцы Міцкевіча, каля выезду з горада на Нарву. Стаіць ужо там крыж, а на абгароджаным пляцы камплектуюцца будаўнічыя матэрыялы.

Другая царква стане пры вуліцы Рэйманта. Гарадская рада 30 красавіка перадала Міхайлаўскай царкве — за сімвалічную плату 500 новых злотаў — зямлю пад пабудову храма і іканапіснай школы. **(ак)**

Гайнаўка

## Вёска ў аб'ектыве

У Гарадской публічнай бібліятэцы ў Гайнаўцы адкрылі фотавыстаўку „Вёска спакойная, вёска ціхая" Уладзіслава Завадскага, якая складаецца з некалькіх дзесяткаў здымкаў. Паглядзець яе можна ад панядзелка да пятніцы ў гадзінах 10—18 і ў суботу ў гадзінах 8 — 16.

У ліпені ў ГПБ будуць наладжаны выстаўкі графікі Віктара Кабаца ды фатаграфій Ежы Буйніцкага. **(яц)**

## Фэстын у Нараўцы

У нядзелю, 19 мая гэтага года ў Нараўцы адбудзецца міжваяводскае святкаванне 130 гадавіны існавання Гурткоў вясковых гаспадынь (KGW), з удзелам прэм'ер-міністра Уладзімежа Цімашэвіча. Заслужаныя дзяячкі гурткоў атрымаюць узнагароды.

У тамашнім амфітэатры будзе арганізаваны фэстын і кірмаш народнага мастацтва. Падчас святкавання з канцэртамі выступяць мастацкія фальклорныя калектывы з некалькіх ваяводстваў, адбудуцца спартыўныя спаборніцтвы, сустрэчы членаў мастацкіх калектываў пры супольным вогнішчы і пячэнні кілбасак.

Пачатак майскага народнага мерапрыемства ў 11 гадзін. **(яц)**

Міхалова

## Юныя спартсмены

Нядаўна ў Беластоку адбыліся раённыя спаборніцтвы юных бегуноў. Юнакі з Пачатковай школы ў Міхалове занялі І месца, а дзяўчаты з гэтай школы — ІІІ месца. Найлепш зарэкамендавалі сябе: Дар'юш Чэрнякевіч, Цэзары Вроцэнскі, Павел Чэрнякевіч, Артур Яварэўскі і Роберт Дзенішэўскі, а таксама Юстына і Анна Шыцік. **(яц)**

# Візіт журналістаў з Беларусі

У днях 25—26 красавіка ў Беластоку пабывала група журналістаў некалькіх беларускіх газет, часопісаў, радыёвяшчання і тэлебачання. Усе яны займаюцца эканамічнай публіцыстыкай. Іхнюю пабыўку арганізавала Усходняе гаспадарчае таварыства з сядзібай у Беластоку, пры дапамозе Фонду развіцця Беластоцкага ваяводства і Польска-брытанскай праграмы развіцця прадпрымальніцтва.

Праграма візіту была вельмі насычана. Беларускія журналісты наведалі некалькі беластоцкіх прадпрыемстваў і сустрэліся з беластоцкімі журналістамі ў „Газецे выборчай". Адбылася таксама прэс-канферэнцыя з удзелам генеральных консулаў — РБ у Беластоку і РП у Гродне. Завяршэннем праграмы была сустрэча ў будынку БГКТ з тутэйшымі беларускімі дзеячамі.

Аб тым, як працуюць польскія прадпрыемствы госці з Беларусі пісаць будуць у сябе. Са свайго боку хачу падзяліцца ўражаннямі ад апошняй сустрэчы.

Пасля доўгага выступлення старшыні БГКТ Яна Сычэўскага пачалася дыскусія. Госці з Беларусі цікавіліся жыццём тутэйшых беларусаў, якіх некаторыя з іх называлі „дыяспарай", значыць — эміграцыяй. Адна з журналістак спыталася нават, ці тутэйшыя беларусы гэта эмігранты ў другім ці трэцім пакаленні. Усё-такі было гэта выключэнне, якое выклікала ўсмешкі яе калегаў.

Іншыя пацікавіліся, чаму ў зале няма гістарычнай беларускай сімволікі, значыць Пагоні. Старшыня БГКТ тлумачыўся, што раней была, але дыпламаты з Беларусі параілі, каб яе зняць. Цяпер яна вісіць у яго кабінеце. Спадар Сычэўскі паясняў далей, што мы тут мусім быць вельмі лаяльнымі да ўрада Беларусі, бо мы— прадстаўнікі іншай дзяржавы і не хочам правакацыі. Паводле яго, Пагоня мае ўсё ж такі дзяржаўны характар.

Дыскусію, якая пачала разгортвацца, прытушыў доўгім і палітычным выступленнем Мікола Гайдук. Закрануў ён гістарыясафічную праблему Усходу і Захаду, да якога цягнецца Польшча. Усхваляў без меры прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Сцвердзіў, між іншым, што калі польская прэса насмейвацца з Лукашэнкі, дык толькі таму, каб праз ягоную асобу насмейвацца з беларускага народа. Паводле спадара Гайдука, шчыры беларус ніколі не напіша кепска пра прэзідэнта Лукашэнку. Дрэнна пра яго пішуць толькі тыя беларусы, якія мусяць, бо бяруць за гэта грошы.

Пакольki Мікола Гайдук павучаў гасцей як нейкіх школьнікаў, яны выразна мелі гэтага досыць і сталі размаўляць з гаспадарамі.

Прэса ў Беларусі даўно ўжо атрымала загад усхваляць прэзідэнта Лукашэнку. Які ж тады сэнс мае заклікание тамашніх журналістаў, каб рабілі гэта ад душы, замест знаёміць іх з нашымі тут праблемамі?

**Алег Латышонак**

# Пасол Рэспублікі Беларусь у „Ніве"

6 мая пабываў на Беласточчыне надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Віктар Бурскі. Спадар пасол пасля сустрэчы з беластоцкім ваяводам Анджэем Гаеўскім, у прысутнасці генеральнага консула РБ у Беластоку Міхаіла Слямнёва і саветніка пасольства Генадзія Наркевіча, наведаў нашу рэдакцыю. Падчас размовы з галоўным рэдактарам „Нівы" Яўгенам Мірановічам закранаnіся справы беларускіх нацыянальных сімвалаў, актуальнай сітуацыі ў Беларусі і праблемы беларускай меншасці ў Польшчы. Хаця меркаванні рэдакцыі „Нівы" і дыпламатычных прадстаўніцтваў Рэспублікі Беларусь часта разыходзіліся, сустрэча прайшла ў вельмі добрай атмасферы. Паводле слоў пасла Бурскага і консула Слямнёва, нашт тыднёвік чакаюць і чытаюць у гэтых установах, а апошняя старонка „Нівы" прыцягвае ўвагу амаль усіх супрацоўнікаў пасольства і консульства.

**рэд.**

# Пратэст

Мы моцна абураны апошнімі здарэннямі на Беларусі, якія мелі месца ў Менску 26 і 27 красавіка 1996 года.

Прымяненне тэрору да маніфестуючых з нагоды 10-годдзя Чарнобыля — гэта яўнае парушэнне правоў чалавека, свабоды дзейнасці, выказвання сваіх думак, волі і поглядаў.

Дамагаемся звальнення няслушна арыштаваных прадстаўнікоў беларускай апазіцыі!

Такія паступкі чыноўнікаў адміністрацыі прэзідэнта А. Лукашэнкі пагражаюць дэмакратыі і вядуць Беларусь да грознай для чалавечнасці дыктатуры.

*Гданьск, 29 красавіка 1996 г.*

**Беларусы**
**Гданьска, Сопата і Гдыні**

# Святкавалі

У першых днях мая палякі вызначылі сабе амаль тыдзень адпачынку. Фармальнай прычынай так доўгага святкавання была пашана для традыцыі працоўных мас (1 мая) і дасягненняў рэфарматараў феадальнага парадку ў Рэчы Паспалітай (3 мая). Хаця прыгнятаючая большасць грамадзян не разумее і не надта хоча разумець сэнс гэтых святкаванняў, ахвотна аднак карыстаецца свабодным ад працы часам. Шмат чаго добрага можна было зрабіць дома, у агародзе, ці проста адпачыць. Палітыкі таксама не марнавалі гэтага часу. Камуністы маглі яшчэ раз прадэманстраваць, што яны ўжо не інтэрнацыяналісты, але патрыёты... і яшчэ якія, усялякія суперпатрыёты маглі пазмагацца з „камунай", „еўрапейцы" — паказаць гістарычныя традыцыі імкнення ў Еўропу. 3 мая ў перапоўненых вернікамі касцёлах і менш людных цэрквах капеланы і іншыя святары ўзносілі свае малітвы за поспех Польшчы і палякаў. 205 гадоў таму спробы рэфармавання дзяржавы закончыліся яе падзеннем. Тым не менш волю зменаў, якую прадэманстравалі палякі ў канцы васемнаццатага стагоддзя, іх нашчадкі палічылі дастатковай прычынай, каб ушанаваць яе як нацыянальнае свята.

У 1791 годзе, пасля трох гадоў безупынных прац Сейма, усім стала вядома, што ніякія асноўныя змены ў палітычным парадку Рэчы Паспалітай не адбудуцца. Большасць шляхты і магнатаў была супраць рэформаў, таму прыхільнікі зменаў амаль у канспірацыі падрыхтавалі праекты новага заканадаўства і вырашылі ажыццявіць іх шляхам дзяржаўнага перавароту. Калі большасць паслоў выехала з Варшавы на велікодны перапынак, рэфарматары, парушаючы рэгламент прац Сейма, пачалі праця гваць нарады. У прысутнасці 30 працэнтаў паслоў, сярод якіх большасць складалі ўдзельнікі змовы, былі прагаласаваны праекты новага заканадаўства, названыя пасля „Канстытуцыяй 3 Мая".

Сам спосаб увядзення новага юрыдычнага і палітычнага парадку выклікаў пратэсты магнатаў і шляхты. Канстытуцыя ў першым пункце ліквідавала дзяржаўнасць Вялікага княства Літоўскага. З юрыдычнага пункту гледжання перастала існаваць Рэч Паспалітая Абодвух Народаў і асталася толькі Польшча. Фармальна беларуская дзяржаўнасць прапала на тры гады раней да апошняга падзелу Польшчы. Такая пастанова Сейма выклікала адмоўныя рэакцыі з боку беларускіх магнатаў і шляхты. Ліквідацыя Вялікага княства Літоўскага закранула іх амбіцыі. У новай сітуацыі трацілі яны не толькі дзяржаўныя пасады, але таксама магчымасць уплыву на ўнутраную і знешнюю палітыку Рэчы Паспалітай ад імя аднаго з яе састаўных элементаў — Вялікага княства Літоўскага. Яшчэ ў маі 1791 года пачалі яны шукаць дапамогі ў расейскай царыцы Кацярыны II. Спадарыня імператрыца паклапацілася за будучыню Беларусі так паспяхова, што „апека" яе краіны пратрывала да сёняшняга дня.

Шмат пісалася, што Канстытуцыя 3 мая ставіла Польшчу на шлях пабудовы буржуазнага парадку. Гэта нейкая фантазія. Канстытуцыю падрыхтавалі і прабавалі ажыццявіць прадстаўнікі шляхты, якія ў новым юрыдычным парадку бачылі шанц пратрывання свае краіны. У Польшчы амаль не было буржуазіі ў заходнееўрапейскім разуменні. Мяшчанства не лічылася тады ні палітычнай, ні эканамічнай сілай. Таму нават пры добрай волі шляхты не было каму аддаць улады. Пра сялян ніхто ўсур'ёз не думаў. Адзін сказ у канстытуцыі, які гаварыў, што дзяржава бярэ іх пад юрыдычную ахову, выклікаў абурэнне шляхты, хаця ніхто нават не прапанаваў, каб адмяніць прыгонніцтва. У сапраўднасці канстытуцыя даволі памяркоўнымі метадамі вяла да цэнтралізацыі ўлады і ўдасканальвання дзяржаўнага апарату. У іншых еўрапейскіх краінах манархі зрабілі ўсё гэтае на сто—дзвесце гадоў раней, але іх рэформы названыя былі „абсалютызмам".

У Польшчы значная большасць палітычнага грамадства не хацела рэформаў і адкінула новы юрыдычны парадак, які стварала Канстытуцыя 3 Мая. Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, які быў гарантам канстытуцыі, 24 ліпеня 1792 года выказаўся на баку канфедэратаў, змагаючыхся з рэфарматарамі. Аднак для патрэб адукацыі моладзі і з нагоды чарговых гадавін пішацца нешта пра еднасць думкі ўсіх станаў, патрыятызм мяшчанства і гэтаму падобныя лозунгі.

**Яўген Мірановіч**

# За свабоду Беларусі

*(працяг са стар. 1)*

ўкраінскай арганізацыі УНА-УНСО свядома правакавалі найбольш жорсткія бойкі. Сярод удзельнікаў маніфестацыі былі таксама баевікі Дудаева з Чачні. Расследаванні датычаць таксама паводзін гарадскіх улад Менска і праваахоўных органаў. Калі будзе даказана, што яны папярэдзілі бойку — будуць пакараны.

На пытанне, ці консульства звярталася да ўлад Беластока за персанальнымі данымі арганізатараў пікета, М. Слямнёў адказаў, што нічога падобнага не адбылося.

На заканчэнне М. Слямнёў заўважыў, што Генеральнае консульства Рэспублікі Беларусь — адзінае ў Беластоку дыпламатычнае прадстаўніцтва і ў сувязі з гэтым павінна яно быць візіткай горада. Гэтым часам пікетчыкі толькі павялічылі непарадак на і так моцна забруджанай вуліцы Варынскага.

Журналісты, выйшаўшы з канферэнцыі ў консульстве, спрабавалі ацаніць чысціню вуліцы Варынскага і вырашылі, што апошняя заўвага консула моцна перавялічана.

**Альтэрнатыўная канферэнцыя**

А 13 гадзіне гэтага самага дня ў сядзібе пасольскага бюро Уніі працы Артур Смулка і Алег Латышонак адказалі на закіды, пастаўленыя Генеральным консульствам Рэспублікі Беларусь у яго пратэсце, накіраваным ваяводскім уладам.

Мы не адчуваем задавальнення, сказаў А. Смулка, ні з узніклай сітуацыі, ні з факту гэтай канферэнцыі.

Дзяржаўнымі сімваламі, сказаў журналістам Алег Латышонак, з'яўляюцца сцяг, герб і гімн (гэтага апошняга сімвала Беларусь у актуальны момант не мае — А.М.). Прэзідэнт Беларусі сваім указам устанавіў у рэспубліцы савецкую сімволіку — указ гэты не быў ухвалены парламентам. У час здымання з сядзібы прэзідэнта бел-чырвона-белага сцяга дайшло да скандальнага інцыдэнту: сцяг гэты быў парзаны на кавалкі. Ці можа здзіўляць у такой сітуацыі факт, што нейкі беларус паліць партрэт чалавека, які такое загадвае.

Ставіцца нам закід, працягваў А. Смулка, што топчам сімвалы Беларусі ў час, калі адміністрацыя А. Лукашэнкі сімвалы гэтыя фактычна беларусам адбірае. Удзельнікі пікета не дапусціліся зневажальных заклікаў, хіба, што за выказванні такія можна прыняць заклікі шанаваць правы чалавека ў Беларусі. Генеральны консул здзіўляецца ў сваім пратэсце бяздзейнасці праваахоўных органаў: „z racji zbeszczeszczenia symboli Białorusi, organy powinny przeciąć demonstrację". Мы пікетавалі таму, што на Беларусі менавіта такія дэманстрацыі як наша, паводле слоўніка консула, „są przecinane". Пікет быў праведзены згодна польскаму заканадаўству. Здзіўленне консула — гэта здзіўленне дэмакратыі, але гэта ўжо пытанне двух дыяметральна розных стандартаў гэтай дэмакратыі.

Наш пратэст, сказаў на заканчэнне А. Латышонак, меў грамадзянскі характар. Польскія ўлады ніякім чынам ні ў чым тут не вінаваты. Гэта выказванні беларускіх парламентарыяў пра „300-гадовы прыгнёт Беларусі Польшчай" фактычна шкодзяць двухбаковым адносінам.

**Аляксандр Максімюк**

# Новыя вершы

**Барыс Руско**

**Дзе мы**

**1**
Вуліца ў неонах,
і людзі ў неонах,
а іголку бачна здалёк.
Самаход, як ганчак,
натрапіў на зайца;
у смокінгу тэатр,
а ў рамках залатых
дзяўчо
ў акне.
А ноч рабочая,
і транспарант:
„Мы хочам любові!”

**2**
Хаваюць без трунаў,
канвеерна,
у супольных магілах;
нікому пашаны,
ні слоў развітальных,
інкогніта.
А мор кладзе ўпокат,
а людзі нямыя,
бо пекла — не торг.
У святыні забілі ўсіх.
Святар пасяродку —
стаіць і маўчыць.
А слёзы шкляныя,
а рукі лядачыя,
і крыжам кроў.
І толькі свечка шчыміць,
як хворы зуб.

**3**
Маці плача,
бо сына забілі.
А манастыр побач,
а Бог далёка.
Маці плача,
бо сына забілі,
а рабін у модлах,
а Бог далёка.
Маці плача,
бо сына забілі,
а боль ракою,
а Бог далёка.

**4**
Яны могуць многа,
так многа,
што зямля ўкленчыць
і неоны згаснуць,
і час уцячэ
крадком
згэтуль,
і вецер кульгавы
загляне ў вочніцы.

**5**
Дзе вы,
што прыгарнулі
сіротку,
і вы,
вы, што гаворыце
аб любові?
Дзе ты, вялікі розуме,
і ты, звычайнае сумленне,
што плыве з сэрца?
Дзе?

**6**
А самалёт не ўзнімецца,
а чало мішэнню,
а ў птушкі склееныя пер'і,
а на сталле працівагаз,
ляжыць і чакае.

**Анатоль Сыс**

**Словы**

Неба сыпала словы,
і пакуль да людзей
гэты дождж адмысловы
далятаў — ён радзеў,

заставаліся тыя,
з якіх моцы ўзялі
дзеці бацюхны-Кія,
дзеці Крыўі-зямлі.

Тыя словы, як знічы,
як уздыхі сурмы,
боскім голасам клічуць
самых верных з гурмы,

тыя словы, як вочы,
скажуць больш, чым паэт.
Той, хто чуў іх, не збочыць,
не ўцячэ ў іншасвет

ад лясоў верасовых,
ад часовых нягод,
ад бацькоўскай высновы:
верай моцны народ!

**Валеры Пазнякевіч**

* * *

Яшчэ слязяцца ў сэрцах пахаронкі,
яшчэ вайной заклеена вакно,
а пах вясны такім здаецца горкім,
што неўпрыкмет п'янееш ад яго.
Пажоўклы ліст з трохкутнікам
пацёртым
і нітка слоў, працятая вайной:
„Прыйду дамоў і скіну свае боты,
і басанож сустрэнуся з табой...”
Лісток дамоў,
напісаны вайной.

## Аляксандры Бергман — 90

Выдатная даследчыца навейшай беларускай гісторыі, аўтарка дзвюх кніжак і дзесяткаў артыкулаў 1 мая адзначыла свой дастойны юбілей.

Прадметам яе першапачатковых доследаў быў рэвалюцыйны рух у Заходняй Беларусі: КПЗБ, „Грамада”. Паступова пашырала свае зацікаўленні на іншыя палітычныя плыні і іх вядучых дзеячаў. Стварыла яна ўсебаковую карціну міжваеннага дваццацігоддзя Заходняй Беларусі, з такімі выдатнымі асобамі тае пары як Браніслаў Тарашкевіч, Ігнат Дварчанін, Антон Луцкевіч, кс. Адам Станкевіч.

Калі перачытваем яе працы, варта памятаць, што некаторыя ўзніклі трыццаць гадоў таму, калі прэм'ер-міністр урада Беларускай Народнай Рэспублікі быў асуджаны ў Беларусі на вечнае забыццё. Ды нават аб рэпрэсаваных у 30-х гадах камуністах трэба было пісаць асцярожна. Пры ўладзе былі людзі, для якіх гэты час быў не толькі гісторыяй.

Ды і самой Аляксандры Бергман апісваны ёю перыяд блізкі таксама па жыццёваму вопыту. Удзельнічала яна ў заходнебеларускім камуністычным руху, потым прайшла сталінскія лагеры. Тым не менш, у сваіх артыкулах сумела захаваць дыстанцыю да таго, пра што пісала ды чыста навуковы аб'ектывізм. Ніводзін даследчык, які займаецца навейшай беларускай гісторыяй, не можа не ведаць яе прац.

З юбілеем Аляксандры Бергман супадае выданне — нарэшце! — яе кніжкі „Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu” ў Беларусі.

Нам тым больш прыемна віншаваць дастойную Юбілярку, што на працягу гадоў яна плённа супрацоўнічала з нашым тыднёвікам. Сёння, перш за ўсё, жадаем многа здароўя. рэд.

# З дзённікаў С. Яновіча

**1994 — 11 — 19.**

(...) З Варшавы. (...) З літаратурнага вечара, супольнага з Чыквіным, Артымовіч, Занеўскай, і акцёрам Семянам. У рамках нейкага нацменскага фестывалю п.н. *Супольнасць у культуры* (аб чым даведаліся, заехаўшы ўжо туды). Публікі — чалавек пад трыццаць, пераважна нашых мігрантаў. Каб не палякі, то і не было б дыскусіі.

Цалкам цікава чытаў нашы тэксты Семян; з майго — эпізод з Вандзяй *(Dolina pełna losu)*.

Быў Варашыльскі з жонкаю. Часлаў Сэнюх (перадаў мне просьбу ад балгаркі Георгіевай-Казарэвай даслаць ёй пару сваіх кніжак).

Гонар правінцыяла: першы раз заўважыў, што рынак у Старым Месце не большы за крынскі, як і ўся мясціна, малая (столькі розніцы, што высокія будынкі, люднейшыя).

— Пусцілі ў *ЛіМе* (4 XI) — *Пераможа розум*. Каржанеўская, здаецца, сямтам падлагодзіла...

**1994 — 11 — 27.**

(...) Езджу, апошнім часам: заўчора вярнуўся з Гародні, дзе быў з Таняй ад аўторка (22-га). Мой выезд туды арганізаваў на маю просьбу Аляксей Пяткевіч (...) падумаў я, паўстала добрая нагода з'ездзіць туды, каб зарыентавацца, ці не ўдасца наладзіць там продаж пару тысячаў *Доўгае смерці Крынак*. Выявілася, што не, і што ўсё беларускае ў іх не прыносіць даходу (з 20-ці экз. тае ж *Доўгай...* амаль палову давялося проста раздаць).

Меў два выступленні перад студэнтамі. Ніхто ўсур'ёз не рыхтаваў маіх сустрэч: на Гістарычным факультэце запоўнілі мне актавую залу першакурснікамі з сёлетніх дзесяцігодак (праф. Чарапіца). Дзеці яшчэ, слухалі мяне быццам нейкага экзотыка... Пра ўсё, што ні сказаў, упершыню чулі (— Беластоцкі край, гісторыя і культура; беларускі рух у нас). (...)

Самы горад змрочны, занядбаны (а мае ён усе шанцы на ўтульную прыгажосць). І да нававіднасці рускамоўнатрасянкавы! Змены ёсць: за долары ўсё ў ім купіш; моладзь жа даволі элегантная, старыя ў лахманах. (...)

Сёння нядзеля. У пятніцу — у дзень майго вяртання, застудзіўга, з Таняй з Гародні — доўгая гутарка з Барбарай Пяткевіч з *Палітыкі* (яе бацька, Францішак, быў калісьці лекарам у Крынках; рэпатрыянт з Віленшчыны, з Ліды бадай). Прыйшла яна за нечым накшталт інтэрв'ю, але і разгаварылася сама, прыватна. Носіць у сабе жаль да старога, які абавязкова хацеў выгадаваць яе на беларускую патрыётку. Асабістае жыццё склалася ёй, відаць, нецікава... Зрэшты і не дзіва: бачу ў ёй — і фізічнае і характаралагічнае — падабенства з бацькам; чалавек ён быў даволі вульгарны, ападыктычны, афіцэрскага складу.

Пакінуў ёй дом у Крынках, з якім не ведае, што рабіць. Не бачыць яна сябе тут у старасць.

**1995 — 01 — 23.**

(...) Харужага *Białoruski drugi obieg w Polsce, 1981-1990*. Мінорнае чытанне, успаміны, успаміны... І здзіўленне, як шмат было зроблена ў тадышняе беларускае падполле! І колькі каштавала духоўных выдаткаў усенька тое, здароўя! З перспектывы часу — уражанне вялізнае непрапарцыянальнасці намаганняў і вынікаў. Праца Харужага можа аказацца важнай, перадаючай мінулае ў будучыню. (...)

**1995 — 02 — 10.**

Вельмі акуратны аўтарскі вечар у асяродку культуры ў Астралэнцы, шостага. Публіка з местачковай інтэлігенцыі; крыху моладзі. Чытаў, таксама, па-беларуску *(Гутарка з маці, Пахаванне Гандзі)*. Кніжак купілі больш дваццаці (польскія). Ядома, дыскусія сышла на палітыку. Мая тэза: без незалежнай Беларусі немагчыма незалежная Польшча. (...)

**1995 — 03 — 29.**

Шведу семдзесят! Божа няўмольны! Але, такі юбілей Віктара абазначае і сталасць *Белавежы*. Яго вечар вёў я па-беларуску, а было жа на ім і нямала палякаў (у колішнім ВДК). І то такіх, як, напр. Амільяновіч. Гэта, таксама, пазнака эпохі, якая набліжаецца.

Віктару Шведу начапілі на галаву вялізную мы як бы торбу з аброкам хвілінnae славы. Ажно хістанула ім... Няхай. На прыкладзе Віктаравага юбілею (23-га) відаць і тое, як мала каго сёння цікавіць пісьменнік (акрамя непасрэднага асяроддзя; сышлося каля паўсотні). Улады патрактавалі Шведава *годдзе* букетам ружаў і віншавальным пісьмом, і нічым болей. Хто ведае, ці не змаўчалі б зусім, калі б не арганізатарская настойлівасць ягонай жонкі Валянціны, функцыянера Ваяводскай управы...

Назаўтра, 24-га, на спектаклі купалаўцаў у Беластоку, *Ідыліі* на матывах рэштак аднайменнага твора Дуніна-Марцінкевіча. Зграбна тое зроблена, камедыйна надта; публіка была шчаслівая. (...)

**1995 — 04 — 30.**

Першыя сто экз. кн. *Лістоўе*. Зроблена акуратна, а радасці ў мяне ад таго ні на грош. Старэю. (...)

**1995 — 05 — 16.**

Спраўджаюцца найчорныя прадчуванні: усенародны рэферэндум паказаў, што беларусам не трэба Беларусі! Што беларусы ў сваёй дзяржаве — гэта нязначная меншасць (17-20%). Ідзе рэцыдыў Беларускай ССР. Беларускі энклаў савецкага сацыялізму ў цяперашнім свеце — самы кароткі шлях у трэці свет менавіта.

Расея не ў стане выратаваць эканоміку Беларусі. Расчараванне немінучае, і галодныя бунты. Словам: славянскі Парагвай.

Палякі агледзеліся, бы той фальклорны Гаўрыла...

(...) у еўрапейскіх газетах сенсацыя: дзіўны народ гэтыя беларусы — іншыя праз пакаленні змагаюцца за незалежнасць, а яны, вось, самі не хочуць! Ненармальныя, ці як? (...)

***(працяг будзе)***

*Тлумачэнні:*
*— Галіна Каржанеўская, пісьменніца і супрацоўніца „Літаратуры і мастацтва”.*

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Падарожжа ў Нурэц

Найбольш люблю падарожнічаць у нязнаныя мясціны. І асабліва тады, калі веснавое, цёплае надвор'е.

У Нурэц я збіралася здаўна. Трэба было завезці ўзнагароду „Зоркі" Юстынцы Юрчук, ды наогул хацелася пазнаёміцца з вучнямі і настаўнікамі. Нялёгка папасці ў Нурэц (што ў Боцькаўскай гміне). Перш за ўсё таму, што на Беласточчыне аж тры мясціны з такой назвай. Найбольшая — Нурэц-Станцыя — з'яўляецца нават гмінным цэнтрам. Але там дарэмна шукаць урокаў беларускай мовы.

Нурэц, які я наведала — гэта маляўнічая, лясная вёска над рэчкай з такой жа самай назвай. Знаходзіцца ён пяць кіламетраў ад Боцькаў. Тут я сустрэла сімпатычных дзяцей. Усе яны ведаюць беларускую мову. У школе вучацца дзеці з многіх вёсак: Дубна, Сасін, Снежак, Малочак, Шашыл і Быстрага. Многія з іх чытаюць „Зорку".


Гэтыя дзеці ходзяць на ўрокі беларускай мовы. З імі сфатаграфавалася дырэктар школы Ірэна Сахарчук.

Шкада, што так рэдка да нас прыязджаюць, — гаворыць пані дырэктар Ірэна Сахарчук.

Яна якраз вядзе тут урокі беларускай мовы. Разам з Яўгеніяй Барташук і Адэляй Барташук заступаюць беларусістку, якая зараз у мацярынскім водпуску.

Цяжка было згаварыцца з дзяцьмі. Паводзілі яны сябе вельмі стрымана і ціха. Толькі калі пачалі мы рабіць здымкі, некаторыя з іх пачалі пытацца пра працу ў рэдакцыі і пра сустрэчы „Зоркі". Аказваецца, што нурэцкія школьнікі маюць многа сяброў у бельскай „тройцы". Зараз дзве васьміклясніцы Эва Нікалаюк і Гражына Грыцук збіраюцца ў Бельскі беларускі ліцэй вучыцца. Прыемна было таксама пазнаёміцца з найбольшымі энтузіястамі беларускай мовы: Янкам Абрамчуком, Міколам Грыгаруком, Юстынай Юрчук і згаданымі васьмікласніцамі.

— Школа з'яўляецца адзінай культурнай установай у вёсцы, — чую ад настаўніц. Вельмі хвалююцца яны за будучыню сваёй школы. Асталося тут толькі сорак дзетак і з кожным годам усё гаворыцца пра закрыццё школы.

— Дашкольнікаў ужо возяць у Боцькі, — гаворыць пані дырэктар. — У час апошняй зімы бацькі самі пераканаліся, як цяжка пасылаць дзяцей у чужыя мясціны. Завеяла дарогі, прыйшлі маразы, то і дзеткі сядзелі ў хаце. Тым часам у Нурцы красуецца прасторны, двухпавярховы будынак школы.

**Зорка**

*Фота Ганны Кандрацюк*


Найбольш падабалася фатаграфаванне.

## Беларуская мова

Яна родная, беларуская
На нашай зямлі жыве.
Мы вывучаем яе са шчырай радасцю,
У нашых сэрцах яна цвіце.

Ніколі мы мовы не забудзем —
Роднай нам заўсёды будзе.
Беларуская мова — гэта наша айчына.
І родная, як зямля мая!

Ты калісьці забудзеш настаўнікаў,
Ты калісьці забудзеш сяброў,
Калі ў далёкіх старонках
Цешыцца будзеш іншай зямлёй.

Што ты мову забыў?
Ты не беларус!
Ты не будзеш, ніколі не будзеш,
Жыць там дзе мы, дзе Беларусь!

**Аня Садоўская**
**VII кл. ПШ у Нарве**

## Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорка"!**

Мы, вучні III „д" класа бельскай „тройкі", выспісваем і сістэматычна чытаем „Зорку". Многія вучні выдатна чытаюць без падрыхтоўкі беларускія тэксты і прыгожа дэкламуюць вершы. Мы вельмі рады, што наша сяброўка, Аня Маліноўская, заняла адно з першых месц у дэкламаванні беларускіх вершаў і прозы на цэнтральным конкурсе „Роднае слова" ў Нарве. Верш Э. Агняцвет „Як наеўся Рыгорка" ў яе выкананні нам вельмі падабаўся. Наш клас жыве дружна. Мы добра вучымся і сябруем з сабой. У класным заалагічным куточку гадуем чорнага хамяка. Усе яго шануюць і даглядаюць. Любім прыгожыя кветкі. У нас іх многа, а адказных за кветкі вызначае дзяжурны.

**Эмілька Казлоўская**
**і клас III „д"**

**Ад рэдакцыі.** Прывітанне Эмілька. Вельмі сімпатычны твой ліст. Цешыць мяне, што ў вашым класе такія паклоннікі беларускай мовы. Абавязкова наведаю ваш клас у недалёкай будучыні.

**Зорка**

**Дарагая „Зорка"!**

Я — вучаніца V класа бельскай „тройкі". Хачу Табе расказаць, як мы ў нашай школе прывіталі вясну. У гэты дзень у школе адбыліся розныя конкурсы і турнір чацвёртых і восьмых класаў. Былі конкурсы на найпрыгажэйшую „вопратку". На пачатку сваю „вопратку" паказвалі малодшыя, а потым старэйшыя класы. Класы I — III хадзілі тапіць куклу зімы, згодна са старой традыцыяй. На канец адбыліся спартыўныя спаборніцтвы паміж вучнямі і настаўнікамі.

Было вельмі весела і цікава.

**Кася Лукашук**

## Вершы Віктара Шведа

### Змалку ашчаднасці вучыцца

Ап'янелы бацька пасля свят
Да сябе дзяцей малых паклікаў:
— Маем мы бутэлек шмат,
Будзеце даход мець невялікі.

Кожны грош нам трэба ашчаджаць,
Калі хочам нечага дабіцца.
Нат бутэлькі трэба прадаваць,
Змалку вам ашчаднасці вучыцца.

### Я быццам тваім мужам

Лае сынка малога маці:
— Замест каб крыху павучыцца,
Ты хуліганіш толькі ў хаце,
Пара табе ўжо спаць лажыцца.

— Ты, мама, прамаўляеш тонам
Уладным і суровым дужа.
Як бы сыночкам улюбёным
Не быў я, толькі тваім мужам.

### Мужчынскі род і множны лік

Настаўніца белмовы,
Са шпітальных умоў,
Пасля родаў паспяховых
Пазваніла дамоў.

Салодкія быццм мёд
Пачуў словы мужык:
— Маем мужчынскі род
І множны лік.

## Чаго жадаю маёй Маме

Маёй Мамулі з нагоды свята
Я жадаю добрых дзён багата:
Каб Яна не тужыла замнога,
Каб мінала Яе ўся трывога,
Каб хоць крышку магла пасмяяцца,
Каб за працу не мусіла брацца,
Каб у нядзелю магла адпачыць
І з сяброўкаю пагаварыць,
Каб Ёй грошай на ўсё хапала,
Каб ніякага гора не знала,
Каб ніколі Яна не хварэла,
Каб маршычнак на твары не мела,
Каб у хаце было ёй прыемна,
Каб не плакала надарэмна...
Як усё гэта запамятаю,
Маёй Маме скажу, бо — КАХАЮ!

**Марцін Брыкчынскі**
*пераклад А. Ваўранюк*
*(„Mamo to ja" nr 5(16)/96)*

## Вясна

Прыйшла да нас вясна.
Яе птушка на крылах прынесла.
Жаваранак у полі пяе,
Зязюля ў лесе куе.

Вось вавёрка
Скача па сасне.
Зайчаняткі выглянулі з траўкі,
Вожыкі выхінуліся з-за куста.

**Сільвія Ракіцкая**
**IV кл. ПШ у Нарве**

## Загадкі

Што за такія чатыры пары,
Што за такія чатыры сястры:
Першая — назбірае вады,
Другая — арэ і сее.
Трэцяя — росціць руплівa плады,
Чацвёртая — есці ўмее.

Што за беленькая мушка
Апусцілася на вушка,
Ледзь чутно паказытала,
Штосьці вушку пашаптала
І праз міг яе не стала.

# Крыжаванка № 20

*Апрацавала Кася Леанюк.*

Адгадай усе словы, запішы ў клеткі і атрымаеш лозунг.

Пачынаецца ў сакавіку.
Даўнейшая назва шклозавода.
На галаве.
Усходняя суседка Польшчы.
Прыносіць шчасце.
Пані прафесар у школе.
Горад між Віслай і Піліцай.
Для заплаты ў магазіне.
Баравік.
Мама майго таты.
Там растуць дрэвы.
Робіць мэблю.
Белавежскі „Ягайлы".
Бывае ў філармоніі.
З арэнай.

**Адказ на крыжаванкі з 15 н-ра**

**Школьная крыжаванка:** Зіма трымае.

**Польска-беларуская крыжаванка:** мена, ноч, раса, сена, нос, дача.

Узнагароды — каляровыя фламастэры — выйгралі: **Крыстына Сакоўская** са Спічак, **Крыстына Янчук** з Курашава, **Анна Раманюк** з Новага Корніна, **Марта Саевіч** з Вілюкоў, **Кацярына Куптэль** з Махнатага, **Андрэй Бандарук** з Кнарыд, **Цаліна Глагоўская** з Гданьска, **Марыля Тапалеўская** з Кленік.

Віншуем!




*Выдатнікі з Новага Корніна.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

**Мікалай Гайдук**

# Аб нашым мінулым

### 6. Полацкае княства ўмацоўваецца

Князь Ізяслаў памёр у 1001 г. *Быў гэты князь ціхі і лагодны, і пакорлівы, і літасцівы і вельмі любіў і шанаваў духавенства і заглыбляўся ў чытанне кніг...* — гаворыць пра яго невядомы летапісец.

За панавання Ізяслававага сына Усяслава (памёр у 1003 г.) Полацкае княства паступова набірала сілы, дужэла, умацоўвала свае гарады і граніцы. Пры княжанні ягонага брата Брачыслава (1003—1044 г.г.) Полаччына пашырыла свае ўладанні на суседнія землі.

Перш за ўсё Полацк імкнууўся далучыць заселеныя крывічамі землі, праз якія праходзіла вельмі важная частка шляху „з варагаў у грэкі" — пераваловкі паміж рэкамі Ловаць, Дзвіна і Днепр. Там з адной ракі ў другую перацягалі судны або перавозілі тавары па сушы, і за гэта купцы і іншыя вандраўнікі плацілі высокую даніну. Пераваловкі трымаў Ноўгарад і меў з іх вялікія даходы. Брачыслаў па даручэнню полацкага веча сабраў моцную дружыну і ў 1021 г. ударыў на Ноўгарад. Разбіў ноўгарадцаў, здабыў горад, набраў безліч багацця і мноства палонных. Аднак калі палачане са здабычай вярталіся дамоў, на іх напалі кіеўскія войскі на чале з дзядзькам Брачыслава, князем кіеўскім і ноўгарадскім Яраславам. Хаця палачане страцілі здабычу, але ўтрымалі даходныя пераваловкі з гарадамі Віцебскам і Усвятамі. Полацк на доўгі час прымірыўся з Кіевам і Ноўгарадам.

Брачыслаў далучыў да Полацкага княства землі, што працціраюцца паміж рэкамі Дзвіной і Дзісной і пабудаваў там моцную крэпасць Брачыслаўль (сённяшні Браслаў), якая ахоўвала Полаччыну ад нападаў літоўцаў. Гэты князь далучыў да Полацка таксама іншыя крывіцкія землі з гарадамі Оршай і Мінскам. За яго панавання Полацкае княства пашырыла і замацавала свае ўладанні па абодвух берагах ніжняга цячэння Дзвіны, пад яго ўплывам знаходзілася значная частка суседніх літоўскіх і латышскіх плямёнаў.

У Полацк па глыбокай рацэ Дзвіне прыбывалі чужаземныя судны з розных балтыйскіх партоў, а палачане свабодна завітвалі на сваіх караблях у розныя гарады на пабярэжжы Балтыйскага мора.

Пісьменніца апісвае: *Малады ваяўнік Алекса сёння старажаваў каля самага галоўнага склада. Гэта была вялізная будыніна, складзеная са стогадовых дубоў. У ёй беражліва было схавана ўсё, што можа спатрэбіцца для войска: шлемы, шчыты, коп'і, шаблі, стрэлы, нажы і мноства іншай зброі, што прагна ўпіваецца ў слабое чалавечае цела. Ляжалі там на вялізных паліцах тонкія кальчужныя сеткі, якімі закрываюць твар лучнікі; ляжалі кальчугі, дзе-ні дзе пасечаныя варожымі шаблямі; асобна мясціліся харугвы, сцягі, а таксама бубны і трубы — яны падымаюць дух стомленага бітвою войска, уліваюць у жылы новыя сілы і адвагу. Часта расчыняліся пры князю Брачыславу вароты гэтага склада, не вельмі адпачывала ад крывавых сечаў усё, што ляжала тут... Ваяўнічы князь Брачыслаў шукаў сабе подзвігаў, а ўсяму княству — славы і выгоды, каб не выгнанцамі адчувалі сябе князі полацкія, а магутнымі ўладарамі.*

(Вольга Іпатава, *За морам Хвалынскім*)

### Практыкаванні

*1. Хто княжыў у Полацку пасля смерці князя Ізяслава?*

*2. Чаму палачане намагаліся далучыць да свайго княства міжрэчча Ловаці, Дзвіны і Дняпра?*

*3. Калі і з якім вынікам палачане на чале з князем Брачыславам хадзілі на Ноўгарад?*

*4. Якія землі былі далучаны да Полацкага княства за панавання князя Брачыслава?*

*5. Прачытайце ўрывак з аповесці Вольгі Іпатавай „За морам Хвалынскім" і скажыце, што захоўвалася ў складзе, на старожы якога стаяў вой Алекса?*

*6. Чаго, паводле пісьменніцы, шукаў князь Брачыслаў?*

**Дапоўні сказы і запішы іх у сшытку.**

Полацкае ... ў ... годзе даручыла сваім воям на чале з князем ... заваяваць ... . Князь Брачыслаў пабудаваў крэпасць ..., яна ахоўвала Полаччыну ад нападаў ... . За княжання ... у Полацк па рацэ ... прыбывалі ..., а палачане свабодна плавалі ў парты ... мора.

# Прагны багацей

***(беларуская народная казка)***

Жылі два браты: багаты і бедны. Багаты сам нічога не рабіў, бо меў шмат парабкаў. А бедны лавіў вудаю ў возеры рыбу — з гэтага і жыў.

Аднаго разу багаты спраўляў вяселле — жаніў сына. Шмат сабралася ў яго гасцей.

„Пайду і я да брата ў госці", — думае бедны. Пазычыў ён у суседзяў каравай хлеба і пайшоў на вяселле.

Прыйшоў і стаіць у парозе з хлебам. Убачыў яго багаты брат:

— Ты чаго прыцягнуўся? У мяне тут госці не табою будучы! Вон, каб я цябе і не бачыў!

І прагнаў яго.

Крыўдна стала беднаму брату. Узяў ён вуду і пайшоў рыбу лавіць. Сеў у стары човен ды паплыў на сярэдзіну возера. Вудзіў, вудзіў — усё дробная рыбка трапляецца. А тут і сонца заходзіць. „Ну, — думае бедны рыбак, — закіну яшчэ раз, на шчасце". Закінуў вуду і выцягнуў такую рыбіну, якой і з роду не бачыў: вялікая ды серабрыстая.

Пацешыўся ён з дзіўнай рыбіны і пачаў яе ў торбу запіхваць. А тая раптам і кажа яму чалавечым голасам:

— Не губі мяне, добры чалавек, пусці назад у возера.

Успомніў рыбак сваіх дзяцей і кажа:

— Не магу я цябе пусціць — я часам галодны і дзеці даўно есці хочуць. З чым я дамоў вярнуся?

— Калі ты такі бедны, — кажа рыбіна, — дык засунь руку мне ў рот і дастань адтуль залаты пярсцёнак.

Рыбак падумаў і кажа:

— Баюся, ты мне яшчэ руку адкусіш.

— Не бойся, не адкушу!

Пасмялеў рыбак, засунуў руку рыбіне ў рот і дастаў адтуль залаты пярсцёнак.

— Што я з ім рабіць буду? — пытаецца рыбак. — Ён жа мяне не накорміць.

— Нічога, — адказвае дзіўная рыбіна, — яшчэ як накорміць. Выкідай сваю дробную рыбку з чоўна і ўкінь туды гэты пярсцёнак.

Рыбак так і зрабіў. І як толькі кінуў пярсцёнак на дно чоўна, дык там адразу цэлая куча грошай стала.

Пусціў рыбак рыбіну ў возера, а сам хутчэй да берага паплыў. Скінуў на беразе кашулю, сабраў у яе грошы і пайшоў дадому.

Зажыў цяпер бедны брат лепш не трэба. Пабудаваў новую хату і паклікаў гасцей на ўваходзіны. А брата не пазваў: не мог дараваць сабе крыўды.

Дачуўся багаты, што яго бедны брат новую хату паставіў і з гасцямі балюе. Кажа ён сыну:

— Схадзі паглядзі, што ў яго там робіцца.

Прыйшоў сын, паглядзеў ды бягом назад.

— Ой, — кажа бацьку, — у цябе таго няма, што ў твайго брата — і хата новая, і жывёлы поўна, і на стале ўсяго хапае.

Багаты аж пачарнеў ад зайздрасці. Пасылае ён зноў сына, каб паклікаў беднага брата. Прыйшоў бедны брат да багатага.

— Адкуль у цябе гэтулькі дабра? — пытаецца багаты брат у беднага.

— Ты, кажуць, жывеш цяпер лепш за мяне.

Бядняк ілгаць не ўмеў — усё і расказаў, як было.

Як пачуў гэта багаты, дык так і засвярбелі ў яго рукі. „Пайду, — думае, — і я злаўлю такую рыбіну".

Узяў ён добрую вуду, сеў у новы човен і паехаў на сярэдзіну возера. Лавіў, лавіў і вывудзіў-такі дзіўную рыбіну.

— Не губі мяне, — просіцца рыбіна, — пусці назад: у мяне там дзеці малыя...

— Не, галубка, — захадзіўся багаты, — не пушчу! Дай мне такі ж пярсцёнак, які дала майму брату.

— Дык брат жа твой бедны быў, ён і хлеба не меў... А табе навошта?

— Як гэта навошта? Не хачу, каб брат багацейшы быў за мяне! Давай пярсцёнак — і канец! А не, дык занясу цябе дамоў і засмажу...

— Ну, што ж, — кажа рыбіна. — Бяры, калі ты такі зайздросны. Мне не шкада.

Разявіла яна рот. Прагны багацей засунуў у рот руку па самы локаць. Тут рыбіна як глымане зубамі — адкусіла руку і нырнула з ёю на дно возера.

Вярнуўся багаты брат дамоў і без грошай, і без рукі.

Так яму і трэба.

# Нельга разлічваць толькі на ласку Божую...

**Гутарка з мгр АНТОНІЕМ АЛЯКСІЦКІМ, ад 1988 года Ваяводскім рэстаўратарам гістарычных помнікаў.**

*— Ці заданнем Вашай установы з'яўляецца ахова народнай культуры?*

— Народнай культурай займаецца Акруговы музей. Мы ў асноўным дбаем пра захаванне храмаў у іх першапачатковым выглядзе. Кожная адаптацыя псуе гістарычны аб'ект. Мы праводзім перыядычную люстрацыю супольна з пробашчамі. Дакладаем, калі можам, да рамонтаў і, калі трэба, рэканструкцыі храмаў, але галоўную адказнасць бяруць на сябе карыстальнікі гістарычных аб'ектаў.

*— Вядома, як шмат на Беласточчыне вясковых царковак — асабліва драўляных, — якія патрабуюць рамонту, а там у кішэнях карыстальнікаў занадта не пажывішся!*

— А мы і дбаем у асноўным пра драўляныя цэрквы. Мураваным нічога не станецца. Часамі рамонты храмаў — асабліва каштоўных помнікаў культуры — праводзяцца цалкам на кошт дзяржавы. Так было, напрыклад, у Шчытах-Дзенцялове. Там царкву пакрылі гонтамі, зрабілі вадасцёкавыя трубы з меднай бляхі (іх, праўда, хутка ўкралі, і парафія зрабіла пластмасавыя), сігнатурку зрабілі таксама. Хацелася зрабіць так, каб было аўтэнтычна. Нават былі да мяне прэтэнзіі, што „захавальнік выдумвае”. У нейкай ступені мелі, як высветлілася, рацыю.

А вось другая царква, якая ў апошнія гады была адноўлена цалкам з нашых сродкаў, гэта царква ў Нарве. Калі спецыялісты пастукалі былі ў сцены царквы, дык яны пасыпаліся. Пад дошкамі мышы парабілі гнёзды, пананосілі туды смецця, поўна было мышыных адходаў — і ўсё гэта сыпалася. Як глянулі далей, высветлілася, што толькі 75 працэнтаў будынка надаецца да карыстання. Царкву перанеслі на новае месца, на могілкі, пакрылі яе гонтамі, а сігнатурку — меднай бляхай, змянілі ашалёўку. Працы былі закончаны ў 1994 годзе. Рамонт царквы ў Нарве склаў каля 700 млн. злотых, а ў Шчытах — каля 500 мільёнаў.

Цяпер мы хацелі б аднавіць касцёл у Нарве. Там жа аж шэсць праваслаўных прыходаў, а толькі адзін каталіцкі касцёл. Невялікае каталіцкае грамадства ў Нарве не дасць рады само.

*— Ці ў даны момант Вашай установай вядзецца нейкі вялікі рамонт праваслаўнай царквы?*

— Ад 1994 г. вядуцца працы ў царкве св. Яна Багаслова ў Новым Беразове. Гэта ў Польшчы адна з большых драўляных цэркваў з XVIII ст. Але ад таго ж стагоддзя яе ніколі не аднаўлялі ўласцiва. На нейкі час працы былі спынены з-за недахопу грошай, але ў мінулым годзе мы атрымалі на рамонт гэтай царквы далейшыя сродкі з Міністэрства культуры, і працы працягваліся. Памянялі падваліны, яны былі зусім з'едзены грыбам, зрабілі падлогу на гары. Узмоцнілі месца на стыку званіц з царквою. Дах там такі велізарны (800 кв. метраў), вельмі высокі. Ён распіраў сценкі на баку. Рэстаўравалі малюнкі на столі, што каштавала 300 млн. злотых, кошт іншых прац склаў у мінулым годзе 500 мільёнаў. Аднаўляліся крыжы і надмагільныя помнікі, што знаходзяцца на старых могілках, дзе ўжо людзей не хаваюць. Усяго на Новае Беразова мы выдалі 1 200 000 злотых.

*— Якімі сродкамі распараджаўся ў мінулым годзе Ваяводскі рэстаўратар гістарычных помнікаў?*

— Усяго ў мінулым годзе мы атрымалі 5,5 мільярда злотых (на 10 тысяч помнікаў), з таго 1,5 мільярда Міністэрства культуры перадало на адбудову спаленай царквы ў Грабарцы.

*— Як Ваша ўстанова дбае пра рухомыя помнікі культуры? Вядома ж, што для гісторыі і культуры важны не толькі храмы, але і тое, што знаходзіцца там у сярэдзіне.*

— У кантакце з пробашчамі мы сочым за аховай цэркваў. Нельга тут разлічваць толькі на ласку Божую! Часамі здараюцца замкі, якія можна адчыніць звычайным гваздзём! Мы робім дакладную дакументацыю рухомых помнікаў. Злавіць злодзея — і тады вядома, адкуль украдзена ікона. У апошнія гады ў сакральных аб'ектах (перш за ўсё ў цэрквах) устаноўлена электронная апаратура, ахоўваючая перад узломамі.



*Ваяводскі рэстаўратар гістарычных помнікаў мгр Антоні Аляксіцкі ў сваёй сядзібе.*

*— Ці будуць прадаўжацца сёлета археалагічныя працы на Беласточчыне?*

— Археалагічныя раскопкі будуць весціся на пяці абшарах (гэта некалькі кіламетраў), будуць, вядома, далей ісці працы ў Гарадку, на месцы, дзе знаходзілася сядзіба Хадкевічаў. Трэба падкрэсліць, што гэтыя працы дафінансоўвае таксама войт Гарадоцкай гміны.

*— А ў Заблудаве бурмістр хоча пашаткаваць гістарычны парк і прадаць яго кавалкі на будаўнічыя пляцы?!*

— Так, некаторыя гміны прабуюць зарабляць рознымі спосабамі. Мы ў гэтай справе скажам свае слова. Нельга ж дапусціць да свядомага знішчэння гістарычнага помніка.

А, з другога боку, гміна ў Нурцы-Станцыі, напрыклад, фінансавала будову дарогі ў Грабарку. Так яны разагналіся, што мы ледзь іх стрымалі, каб не заасфальтавалі самой Грабаркі.

*— Як Вы мяркуеце весці нагляд над вернутым праваслаўю манастыром у Супраслі? Ці будзеце яго прынамсі дафінансоўваць?*

— Мяркую, што так, але перш за ўсё трэба захаваць яго перад замаканнем, адрамантаваць дах.

*— На Вашым пісьмовым стале я бачу Энцыклапедыю архітэктуры Беларусі.*

— На жаль, мы ў Польшчы яшчэ такой не маем. Мы супрацоўнічаем з беларускімі ўстановамі па захаванню гістарычных помнікаў культуры перш за ўсё ў галіне дакументацыі. З беларускага боку збіраюць матэрыялы, якія датычаць польскіх помнікаў культуры, а ў нас — тое, што магло б зацікавіць іх. Шмат дапамагае ў гэтым гісторык Ігар Трусаў з Гародні.

*— Вельмі дзякую Вам за размову.*

Гутарыла і фатаграфавала
**Ада Чачуга**

**Васіль Сакоўскі**

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

***(працяг; пачатак у 18 н-ры)***

Хтосьці можа падумаць тут, як так, мясцовасць наша толькі часу належыць да Расіі, а чыноўнікі яе, Тура напрыклад, паслугоўваюцца не рускай, а польскай мовай?

Давайце цяпер кінем вокам на гісторыю нашай мясцовасці і Беларусі канца XVIII, XIX і пачатку XX стагоддзяў.

Да падзелаў Рэчы Паспалітай наша мясцовасць і Беларусь належалі да Вялікага княства Літоўскага. Усе тры раздзелы Польшчы адбываліся пры панаванні расійскай царыцы Кацярыны II. У сілу першага падзелу Польшчы да Расіі была далучана толькі ўсходняя частка Беларусі, у сілу другога — цэнтральная частка і ў сілу трэцяга — уся рэшта, за выключэннем нашай Беласточчыны, якая ў час трэцяга падзелу дасталася Прусіі. І была яна ў складзе Прусіі да Тыльзіцкага міру ў 1807 годзе, у выніку якога адышла да Расіі. Ад гэтага часу была яна ў складзе Расіі аж да бежанства ў 1915 годзе.

Тыльзіцкі мірны дагавор быў заключаны паміж Напалеонам Банапартам і Аляксандрам І. За гэты кароткі час, ад трэцяга падзелу Польшчы, у Расіі ўспела ўжо памерці Кацярына II, паспелі замардаваць яе сына і наследніка Паўла І і крыху пацарстваваць на славу найстарэйшы сын Паўла І і ўнук Кацярыны II Аляксандр І.

Трэба сказаць, што пры панаванні гэтых трох манархаў палажэнне далучаных да Расіі беларусаў нічым асаблівым не змянілася.

Нашы беларускія паны за доўгі час панавання на Беларусі пры Першай Рэчы Паспалітай сталі ўжо ў асноўным каталікамі і чуліся не русінамі, а палякамі. Палякі таксама паяўляцца ў Беларусі, а пасля далучэння нас да Расіі і ў нас, рускія паны. Іх шчодраю рукою надзялялі цары землямі і беларускімі „душамі”, паходзячымі з ранейшых каралеўшчын ці наёмнікаў „упорствующих” польскіх паноў.

Нашы сяляне былі надалей прыгоннымі і да 1839 года ў асноўным уніятамі, толькі ў 1839 г. яны зноў сталі праваслаўнымі.

Польская шляхта, прыняўшы прысягу на вернасць рускаму цару, адразу атрымоўвала такія ж самыя правы, як і рускае дваранства — былі поўнымі гаспадарамі на сваіх маёнтках і над сваімі падданымі.

Беларускі ж селянін надалей аставаўся ў поўнай, як эканамічнай, так і юрыдычнай залежнасці ад таго ж самага польскага пана ці ад новага рускага памешчыка. І тое, што ён беларус і праваслаўны, яму не толькі ў нічым не дапамагала, а наадварот, часта перашкаджала. Толькі пан адчуваў сябе пакрыўджаным цяпер, быў часцей за ўсё ў цiхай апазіцыі да рускага ўрада ды ўсяго рускага і праваслаўнага і адплачваў за гэта тым, каму мог — найлепей свайму падданаму праваслаўнаму беларусу, а „покровители” праваслаўя — рускія цары, калі і не памагалі яму ў гэтым, то і не перашкаджалі.

Не лягчэй жылося таксама беларусам-уніятам і беларусам-католікам. Усе яны былі ў поўнай залежнасці ад сваіх паноў і адміністрацыі. Адным словам, беларус у Беларусі быў заўсёды перад кімсьці вінаваты, камусьці не дагадзіў. Польскія паны хацелі бачыць беларуса католікам і палякам, а рускія — праваслаўным і рускім. Але нават у рознага тыпу канфліктных справах паміж польскім панам і беларускім праваслаўным мужыком, рускі памешчык ці чыноўнік ахвотней трымаў бок польскага пана, як беларускага і праваслаўнага мужыка.

Пры царстваванні Аляксандра І адміністрацыя і школьніцтва ў нас былі ў асноўным польскія. Адміністрацыя працавала паводле „Статута Вялікага княства Літоўскага”, а школьніцтва — паводле навуковага плана і статута Адукацыйнай камісіі, якія асталіся яшчэ з часоў Рэчы Паспалітай. І бадай найбольшага росквіту польскае нацыянальнае школьніцтва дасягнула менавіта тады. Праўда, гэта школьніцтва было не для ўсіх. І напэўна ж не нашаму селяніну. Яму яшчэ школ не было, тым больш беларускіх.

У падобнай сітуацыі апынулася і другая вельмі важная дзялянка жыцця нашых продкаў — рэлігія. У царскую імперыю беларусы папалі ўжо рэлігійна разбітымі на тры канфесіі: праваслаўных, уніятаў і католікаў.

У Рэчы Паспалітай, як вядома, імкнуліся знішчыць праваслаўе і праваслаўных. Афіцыйная польская палітыка была такая, каб пашырыць каталіцызм і уніяцтва коштам праваслаўя. І рабілі гэта сістэматычна і бескампрамісна. Таму да канца існавання Першай Рэчы Паспалітай так мала асталося ў Беларусі і нашай мясцовасці праваслаўных. Напрыклад, праваслаўнымі асталіся толькі нейкі ўбогі манастырчык і прыходзік у Бельску і Заблудаве.

Ці змяніліся адносіны да праваслаўя пасля далучэння нашай мясцовасці да Расіі?

Як не дзіўна, але пры панаванні Аляксандра І — не надта.

Пасля смерці царыцы Кацярыны II, на расійскі трон уступіў нарэшце яе сын Павел І. Ён так ненавідзеў сваю маці, што пачаў рабіць дакладна ўсё наадварот, як яна рабіла. Усе, напрыклад, яе фаварыты аказаліся ў вялікай няласці Паўла, а яе апальныя — сталі моцна мілымі яму.

Прыкладам можа паслужыць тут Тадэвуш Касцюшка — вораг нумар адзін расійскага трону і Кацярыны II, бо падняў паўстанне супраць „законной власти”. Стаўшы расійскім імператарам — як сцвярджае прафесар У. Ігнатоўскі — Павел І на дзевяты дзень свайго панавання (16.11.1796 г.) асабіста вызваліў з няволі Т. Касцюшку, а праз два тыдні выдаў яму з дзяржаўнага скарбу 60 тысяч рублёў. Указам ад 29 лістапада 1796 г. былі выпушчаны на волю ўсе „попавшие в заточение и ссылку по случаю бывших в Польше замешательств”. Яны атрымалі свае ранейшыя маёнткі, поўную ўладу над „душамі” і дзяржаўныя пасады, у тым ліку і на Беларусі. Згаджаецца таксама Павел І з просьбай польскай шляхты вярнуцца ў Беларусі да „Статута Вялікага княства Літоўскага”, забароненага Кацярынай II і замененага рускім правам.

Падобна было і з рэлігіяй. Пры панаванні Кацярыны II, хаця яна пасля першага раздзелу Польшчы і выдала свой указ аб верацярпімасці, па якому ўсе павінны былі спакойна аставацца ў сваёй веры, панавала выразная тэндэнцыя пашырэння праваслаўя, цяпер ужо коштам уніяцтва і каталіцызму.

***(працяг будзе)***

# Куды ні кінь — усюды клін

З'ездзіў я ў Баброўнікі ў сакавіку, калі яшчэ зіма не намервалася адыходзіць. Шаша добра ачышчана ад снегу; гэта прэстыжная дарога з Беластока у Баранавічы, па якой возяць тавары з Усходу на Захад і наадварот. Праўда, ад часу адкрыцця яе для міжнароднага транспарту яна крыху змянілася: выбоіны сталі глыбейшымі, а на мастах пастаўлены бар'еры, якія дазваляюць на праезд па іх толькі па адной машыне. Двух агромністых TIRаў масткі такія, відаць, могуць не ўтрымаць. Неўзабаве за дарогай, што адгаліноўваецца ў Зубкі, пачынаецца чарга гэтых машын — да граніцы будзе нейкіх 5 км. Аўтобус ПКСу едзе левым бокам шашы. Разглядаю, з якіх дзяржаў людзі маюць інтарэс, каб стаяць сама менш двое марозных сутак у гэтакай тут чарзе. Найбольш PL, крыху менш BY, ну і яшчэ H, D, GB, DK, NL, CZ, SK, F, I, CH, CRO, а нават IR. Цяжка здагадацца, што прыгнала сюды жыхара гарачага Ірака, магчыма на старасць хоча мець пра што расказваць унукам. Раптам насустрач нам паяўляюцца дзве румынскія аўтафуры. Наш аўтобус не мае куды з'ехаць, на шчасце румыны адводзяць свае машыны на сам бераг шашы і мы ледзь-ледзь працiскаемся далей. Але вось і шлагбаўм; аўтобус з'язджае налева і спыняецца. Пытаю, ці гэта ўжо Баброўнікі. Шафёр патаквае і я выходжу. Перада мною шэрыя *блёкі*, у далінцы вялікія павільёны для гадоўлі жывёлы, а з другога боку вясковыя забудаванні і па адзін, і па другі бок міжнароднай шашы. Пытаю маладога чалавека, як прайсці ў Баброўнікі. Ён, у сваю чаргу, перапытаў, які нумар дома мяне цікавіць, і калі я адказаў, што пачатковыя, паказаў направа. Пайшоў я прасунутай бульдозерам у снезе сцежкай. Увайшоў у вёску каля крамы; крама закрыта і ніякіх слядоў жывучасці каля яе няма. Вузкая вуліца таксама прасунута бульдозерам і таксама не надта ўтаптана. Многа пустых пляцоў і мнагата хат, каля якіх не відаць слядоў людской прысутнасці. Ужо два гады будзе, як паў гарадоцкі ГС і закрыта вясковая крама, якую жыхары калісь, мо трыццаць гадоў таму, будавалі грамадскім чынам. Купіў хе нейкі *прывацяж*, завёў ваду, глыбінную студню зрабіў, але не адкрывае, нешта яму не выходзіць; не будзе тут яму мусіць вялікага даходу — цяпер у вёсцы жыве мо са 100 душ, з якіх каля 50 самых баброўніцкіх, а рэшта з блёкаў. Вёска падзелена цяпер напалову: выкапаны дол глыбінёю шэсць з паловай метра, у якім пралажана міжнародная шаша, а 4,5 метраў над ёю будуецца віядук, пад'ёмнасцю ў 40 тон, які назад злучыць вёску нармальнай вуліцай. Працы маюць быць закончаны да 30 чэрвеня; каб не зіма, то можа і ўжо зрабілі б.

*— Што маюць баброўніцкія ад гэтага: добрае ці дрэннае?* — пытаю жыхароў вёскі.

— Ой, зла то многа! Колькі ўжо Баброўнікі выцерпелі: і ад *калхоза*, і цяпер, як гэта *пшэйсце* сталі рабіць. Смуроду колькі, і хаты колькі выцерпелі — зямля дрыжыць і сцены развальваюцца. Трэба рамантаваць, а плаціць няма каму. Быў войт і сказаў, што нашы будынкі асядаюць, старыя, трэба за іх прыватна даходзіць, а ад нас колькі забраў, гміну сабе выкрасіў. Нас да ваяводы адсылае, кажа, што гэта палова вёскі — ваяводы. А тут колькі *выўротак* пясок што пяць-дзесяць мінут то туды, то сюды валакуць; *— ужас* тут быў, дыхаць не было чым, бо вуліца наша *вымашчана* пяском; за граніцай, у Беларусі „камуна" ў кожнай вёсцы, і ў Мінчыках, і ў Рудаўлянах, і ў другіх, асфальт палажыла, а ў нас... 10–15 метраў чалавека нельга было распазнаць. З'ездзілі да ваяводы, то загадаў, каб палівалі, але таксама ўсяк было. *Пасуда ў крэдэнсе* дрыжала. Калісь вуліца была нізка, але *калхоз* усё падсыпаў і цяпер яна паднялася нават на метр вышэй ад некаторых панадворкаў — ні заехаць, ні выехаць, ні нават плота паставіць. Колькі пылу — ні лахмана не павесіш, ні вакна не адкрыеш. Бывала, садзілі крыху агуркоў, морквы, а цяпер нічога — усё сівае, пыл прыбівае. Агрэсту і парэчак колькі прыйшлося выкінуць; а гэта ж усё каштуе. І платы, і лаўкі паразвальвалі. Пасцелі нельга было дачысціцца, так была запылена — а накрытая ж была. Правялі ваду, войт кажа: крыху плаціць за метр будзеце. А прэзас гэты ў *калхозе* ўжо па 80 грошаў нам заспяваў, бо студня „яго"... То мы толькі пылу, смуроду і *браскатаўні* гэтай пацярпелі, і яшчэ за ваду плаціць, за сваю, з баброўніцкай зямлі! *Валачаю* нейкаму, што сюды прывалокся... Ездзяць праз нашы ўчасткі і калі звернеш увагу, то зараз: „А цо, пані обрабя? Пані юж здыхаць тшэба!" А каб тае зямлі не ўбілі, то нейкі гародчык засадзіла б, ці парэчкі — каб унукі мелі, як з горада прыедуць. А я ж плачу за яе, але ніхто ўвагі не звяртае, што хочуць, тое робяць. Каб тыя начальнікі хаця некалькі гадзін паглядзелі, што тут робіцца. *Эмэрытуры* не падбавілі; каб вось ім на некалькі месяцаў нашы грошы — хай яны пажылі б. Нам зрэшты, то мог бы быць нават хлеб з вадою, абы толькі дзецям работа была. Калісь, да вайны, то як наварыш бульбы з лупінамі, то тыя лупіны гатовы былі паесці — такі быў капіталізм; стагнала! Спулдзельня была на сваім *разрахунку*, добрая была. Толькі як стаў гэты пераварот, то перасталі мяса браць, праз два гады нічога не бралі. А воўну па сем тысяч аддавалі — за бутэльку піва! І збажына ляжала. І ўся зямля заворана і засеяна была — 1200 гектараў. Сеялі жыта, яравую пшаніцу, ячмень, авёс, мяшанку. Быў час, што і кармавыя буракі садзілі, але потым то ўжо адно толькі збожжа. А сёлета то толькі 200 гектараў засеялі — паліва няма. Усю зямлю навокал, аж да чыгункі і да Вераб'ёў, спулдзельня брала — амаль адны пенсіянеры асталіся. У нашай вёсцы толькі адзін гаспадарку робіць, 100 гектараў узяў, пабудаваўся — дом паставіў, хлеўню, гаражы, машын набраў — тры трактары, камбайны, *выўротку*. Але прыйшоў крызіс са збожжам і адмовіўся. А таксама ж прыязджалі, свінні забіралі і збожжа. Пяць гадоў таму за метр збожжа плацілі 40 тысяч, а метр навозу каштаваў 120 тысяч. А яшчэ таго збожжа ніхто не прымаў — і ад яго, і ад спулдзельні; трэба было папрапсіць, каб прынялі! Нейкіх пяць гадоў таму ў спулдзельні ніхто збожжа не забраў, прытухла, і такое ўдалося ў Беларусь узамен за ўгнаенні памяняць. А цяпер на полі толькі „валэнсная збожжа" пасеялася, а людзі з голаду здыхаюць, у каго многа дзяцей. Марнее ўсё. Цяпер у вёсцы толькі трое коней і АДНУ (!) карову трымаюць. Калісь была ў нас вясёлая вёска.



*Хата з круглякоў у Баброўніках.* Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

*— Чаму вясёлая?*

— Пражывала каля 400 жыхароў, было каля ста хат, а ў кожнай хатцы і па 7, і па 6 чалавек. Была вулачка да рэчкі, называлі яе Варшаўскай, бо там млын быў, і пры той вулачцы жыло 60 асоб. А цяпер у цэлай вёсцы менш асталося — адны бабулі і дзядулі; толькі Бараўскі, калі яму з гаспадаркай не выйшла, краму цяпер вядзе. У Габятах толькі 6 чалавек цяпер, а было сто. У Коматаўцах мо з 70 чалавек жыве; таксама калісь гэзсаўская крама была, а цяпер да Бараўскага прыязджаюць. І з Лужан таксама. Адно добра, што ваду зацягнулі, як граніцу адкрылі; па пяць мільёнаў толькі каштавала — так войт зрабіў. Але крыўды тут хіба нікому няма, бо гміна і школу, што грамадскім чынам будавалі, прадала, і краму, і святліцу, і тапалі, што таксама ўсе разам садзілі, прадала. Яшчэ вось маюць правесці тэлефон, па 12 мільёнаў для шасці чалавек, што запісаліся. За ваду дзякуем, але і да тэлефонаў мог бы войт нешта дакінуць.

*— А цяпер тэлефон у вёсцы ёсць?*

— Няма. Былі калісь у гэзсаўскай краме і ў школе; ну і ў вайсковых, дзе святліца наша была — мелі ключы і калі было трэба, нават уначы, хадзілі званіць. А ў солтыса не закладалі. Цяпер праводзяць новую лінію да гранперахода і адгэтуль гэтыя 6 нумароў. А пакуль што трэба званіць з бюро спулдзельні ну і войска ніколі не адказвае, але толькі ў важных справах.

— Найстрашнейшае тое, што поле ляжыць, што не кошана нідзе. Каб хаця гэтыя маладыя людзі мелі магчымасць поле рабіць, бо ж нямала такіх, што хочуць хлеб есці. А касіць няма для каго, бо дабытак зліквідавалі. А, зрэшты, што гэта за парадак, калі для ста авечак, заміж накасіць, едуць сена купляць. Палітыка такая. Бо ці ж тое загранічнае мяса было лепшае, што тут толькі авечак пераваліласа. Павінны былі забраць і заплаціць гэтым людзям, каб асталіся людзі добрыя, каб не распаўзаліся, як тыя мурашкі. Хай застаўся б прэзас добры і даць яму волю, каб мог выкінуць таго п'янюгу, што тры дні пад плотам валяецца; а то гадка глядзець.

— Бяда ў тым, што вырашае не прэзас, а агульны сход членаў спулдзельні большасцю галасоў. Быў такі прэзас, што хацеў добра зрабіць, ну то пачалі на яго нападаць, сварыцца — ну і адышоў чалавек. Кожны робіць, што сабе захоча. Яшчэ ніколі так не было, каб поле аблагом ляжала.

— Я, перапрацаваўшы 38 гадоў, не п'ючы і не гультайнічаючы, дастаю два трыста, і той, што хадзіў і качаўся п'яным край платоў, таксама дастае два трыста „куранёўкі".

— Ужо два гады, як у нас школы няма. Калісь была васьмігодка, потым 5 гадоў — трохкласная. Калісь школа была над рэчкаю, у такім бюро, дзе пан жыў. А школу пасля вайны паставілі. А цяпер дзяцей у Вераб'і возяць.

*— А як вам жывецца пры самой граніцы?*

— Ад нас да граніцы, да самой рэчкі, 150 метраў. Дазволілі нам у двух месцах купацца, але з таго боку, ад Коматаўцаў, то няма як і дайсці. Там нават і рака забруджана, бо і сцёкі са спулдзельні і з будовы. А тут кладку зрабілі, і малыя дзеці купаюцца, бо плытка. Прыязджаюць баброўніцкія гарадскія і іх знаёмыя. І старэйшыя, пенсіянеры на лета прыязджаюць. З гэтага, паўднёвага боку вёскі то і паветра чысцейшае, бо ветры тут пераважна паўднёвыя. Адна бяда, што ў жвіроўню калісь смецце вывозілі і не засыпалі — там летам немагчыма проста, усякая пакасць там ляжыць.

— З паўднёвага боку вёскі стаіць 45 хат. Толькі ў палове іх пастаянныя жыхары жывуць, а другая палова прыязджае толькі на лета; як прыедзе ў лютым, калі цяплей, то сядзіць аж да лістапада.

— Калісь, як было ў вёсцы многа народу, то і вады хапала. А цяпер, накапаўшы студняў, людзей паменшала, і вады паменшала; некалькі вёдраў возьмеш і вада робіцца нячыстая.

— Толькі грыбы не папрападалі, паўнюсенька тут, прыязджаюць і збіраюць. Толькі людзей маладых без работы асталося — развалілiся „Каро" і ГС. Ну і лес рэжуць таксама, у пень вырэзваюць і паляць. Мусяць паліць, бо мусяць жыць...

Выходзячы з вёскі бачу пры блёках прычэпу са свежа парэзанай на калодкі сасною. (*Калхознікі* часта пацюху рэжуць дрэвы ў прыватных лясах тутэйшых пенсіянераў.) Пэўна цёпла ад гэтага апалу, заўважаю. А так, дзесяць *стопняў*, чую ў адказ.

Пасля заканчэння вайны Баброўнікі аказаліся ў межах Савецкага Саюза. 20 мая 1948 года ў 8 гадзін вечара граніцу перамясцілі на раку Свіслач, адрэзваючы вёску ад традыцыйных суседзяў, у тым ліку ад прыхадскіх Мінчыкаў. Цяпер прыход у Мастаўлянах. Год таму згарэла там плябанія разам са старымі бацюшкам і матушкай. На складзе асталіся бляха і фарбы, якія за сабраныя ад прыхаджан грошы былі куплены на рамонт царквы. Пасля пажару прыехаў швагер старога бацюшкі і забраў усё — трэба ж было сямейцы нечым пацешыцца пасля балючай страты...

Сядаю на беластоцкі аўтобус. Шафёр не выдае рэшты, бо акурат „злічыў касу".

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Радзіма — Родзіна

**Частка XLIX**

Сённяшні пераказ з маіх размоваў з беларускім эмігрантам у Вялікабрытаніі Янкам Міхалюком датычыць гутарак, праведзеных мною некалькі гадоў пасля смерці біскупа Часлава Сіповіча:

„Я вам скажу, што пасля смерці біскупа Сіповіча то мы моцна баяліся. Здавалася нам, што не знойдзецца другі чалавек, які патрапіць весці Беларускі цэнтр так добра, як вёў яго біскуп. Бо бачыце, пры Сіповічы то айцец Аляксандар, хаця і быў яго праваю рукою, то ўсё ж такі займаўся амаль выключна гаспадарчымі справамі. Нават сам біскуп не раз жартаваў, што айцец Аляксандар то спецыяліст па кухні. Аднак, калі памёр біскуп Сіповіч то аказалася, што айцец Аляксандар разбіраецца не толькі ў кухонных справах, але патрапіць дасканала займацца ўсім, што знаходзіцца ў Цэнтры: і царквою, і бібліятэкай, і музеем, і ўсімі будынкамі. Вы ведаеце, што ў нас была вельмі цяжкая фінансавая сітуацыя. Але калі фінансавыя справы перайшлі ў рукі айца Надсана, то ў кароткім часе рашуча палепшыліся нашы фінансы і зараз ужо ніякая бяда не пагражае нашаму цэнтру. І вось, бачыце, тут зноў усё ўпіраецца ў беларускі характар і ў тыя радзімы, якія беларусы стварылі ў Англіі, Амерыцы, Аўстраліі і Канадзе. Айцец Аляксандар аб'ехаў усе краіны, у якіх знаходзяцца беларусы і ўсюды прадставіў нашу фінансавую сітуацыю. І што вы думаеце, амаль усе беларусы нешта далі. Ну, яно вядома, што адны далі меней, а другія болей, але як гавораць палякі — зярнко да зярнка і бэндзе мярка. Зрэштаю, трэба ведаць, што далі не адзін раз. Даюць да сёння. Колькі хто можа, толькі прысылае. І зараз ужо ў нас няма бяды, у кожным выпадку не пагражае нам банкруцтва. Ну то які тут трэба было б зрабіць вывад? Ну, хіба такі, што беларусы гэта не нейкія там падкідышы, людзі без гонару і без прывязанасці да роднага. Яны таксама маюць свае нацыянальныя пачуцці. Хачу толькі яшчэ вам сказаць, што тут на Захадзе то ніхто нікому грошай на прыгожыя вочы не дасць. Такі тут парадак і ніхто ў пропасць грошай не выкіне. То чаму ж беларусы даюць на Скарынінскі цэнтр у Лёндане? А даюць таму, што прыязджаючы сюды — а прыязджаюць з усіх куткоў свету — бачаць, што іх грошы тут не толькі не марнатравяцца, а выкарыстоўваюцца з вялікай карысцю для ўсёй беларускай эміграцыі. І не толькі для беларускай эміграцыі, бо бачыце, цікавяцца намі і карэнныя англьцы. Вы ж добра ведаеце і Джыма — ангельца і Гая Пікарда, якія па паходжанню француз, але жыве ў Англіі. То ж гэтыя людзі вывучылі беларускую мову на толькі, што свабодна ёю паслугоўваюцца. Гэта ж вам не жартачкі. Ангелец і француз вельмі добра размаўляюць па-беларуску, а мільёны беларусаў па-беларуску ні бэ, ні мэ. Трэба ведаць, што і ў гэтым то вялікая заслуга біскупа Сіповіча і айца Аляксандра.

Ну, што я аб гэтым усім думаю? Ну, думаю, што сапраўды чалавек не можа жыць без айчыны, калі ён не прайдоха, а чалавек сапраўдны. Вось мы тут і стварылі малую радзіму. Ды не толькі мы, бо такія радзімы стварылі беларусы і ў Амерыцы, і ў Аўстраліі, і ў Канадзе, і ўсюды там, куды іх кінуў лёс. А трэба сказаць, што тут на Захадзе ні адна з дзяржаў не дае грошай для нацыянальных меншасцяў, у тым і для беларусаў. А ўсё ж такі мы зрабілі вельмі многа. Зрабілі такое, чым можна ганарыцца. А бачыце, у Савецкім Саюзе то ўсё беларускае забіта і ўтаптана ў гразь.

Значыцца мы не горшыя, чым другія народы. Толькі лёс наш намнога горшы, чым у другіх нацыяў. З таго, што ў Беларусі ўсё амаль згінула, а тут усё ж такі трымаецца, то, па-мойму, сведчыць аб тым, што нам не абавязкова трэба дапамагаць, толькі не трэба нам перашкаджаць. Бальшавікі зрабілі ўсё, каб перашкодзіць. Ну і дабіліся добрых для сябе рэзультатаў. Моцна яны паднішчылі Беларусь, але думаю, што не знішчылі поўнасцю. Раней ці пазней наша малая і вялікая радзіма адродзіцца. Вось для гэтага і працуем. Пагля дзім, што з гэтага выйдзе. Толькі яшчэ раз хачу сказаць, што тут усе духоўныя беларусы — і вуніяты, і праваслаўныя, і баптысты — дзейнічаюць у адно. Вось у гэтым наша сіла".

**Алесь Барскі**

# Каханне адно...

Мірка была добрай вучаніцай, паспяхова закончыла ліцэй, паступіла ў Медыцынскую акадэмію. Уся радня цешылася — будзе доктар у сям'і.

У студэнцкай бібліятэцы пазнаёмілася з Самуілам, студэнтам-іракійцам. Мірка трактавала яго як добрага сябра, а Самуіл закахаўся. Стараўся пераканаць любую, каб стала яго афіцыйнай нарачонай. Мірка меркавала: у іх жанчыны мала значаць, носяць закрытыя твары, б'юць іх мужчыны і адным словам могуць развесціся, нават без сведкаў...

— Лепш нам астацца толькі сябрамі, Самуіл. Ты паедзеш на радзіму, возьмеш за жонку дзяўчыну свайго роду...

— Ты памыляешся, у нас не так кепска адносяцца да жанчын, як у вас думаюць... Я прыехаў у Еўропу пазнаёміцца з вашай культурай. Я сучасны чалавек, буду лекарам. Буду цябе слухаць, не будзеш мець падстаў для наракання. Я ж цябе так кахаю... Будзем мець шчаслівую сям'ю.

Самуіл стараўся даказаць палкасць сваіх пачуццяў, засыпаў дзяўчыну падарункамі, хаця яна ўсе іх яму вяртала. На чацвёртым курсе зімой паламала нагу, на тры тыдні паклалі яе ў бальніцу. Самуіл кожны дзень прыбягаў, прыносіў падарункі, кветкі, прасіў стаць яго нарачонай... І Мірка закахалася ў гэтага адданага, добрага хлопца, які ўжо столькі гадоў трывае пры сваіх да яе пачуццях.

Калі атрымалі дыпломы, рашылі пабрацца шлюбам. Мірчыны бацькі бедавалі, хаця шлюб быў у царкве. Самуіл хацеў выехаць на два гады з жонкай у Ірак, там адпрацаваць стыпендыю, аформіць грашовыя спадчынныя справы і вярнуцца з сям'ёй у Польшчу. Радня перасцерагала Мірку, каб не ехала, але закаханай маладой жонцы не пара была ўжо слухаць чужых парад.

Было шмат слёз, калі маладыя ехалі ў свет. Мірка прасіла бацькоў каб не плакалі — хутка ж вернецца назад!

У Іраку ў Самуіла былі ўжо тры жонкі і пяцёра дзяцей.

— А чаму ж ты мне не сказаў аб гэтым? — расплакалася Мірка ды кінулася на пышнае ложа тварам у падушкі.

— Я з імі развядуся. Гэта досыць простая справа. Дам ім грошы, забяспечу, і не будуць наракаць. Я ж прыехаў сюды, каб з імі справу аформіць. Мяне сям'я жаніла сілай, такая ў нас, бачыш, традыцыя... Яны мне непатрэбныя...

— А дзеці?!

— Дам ім што ім належыцца. Не буду з імі сустракацца, зраблю ўсё так, як ты загадаеш. Будзеш мець правы першай жонкі.

Спачатку Самуіл не звяртаў увагу на сваіх жонак, дзеці таксама яго не цікавілі. Знайшоў добрую працу, прыходзіў дадому падвечар. Мірка сядзела дома, нічога не рабіла — гатаваць і прыбіраць не трэба было, ад такіх спраў была шматлікая служба.

Калі Мірка зацяжарыла, муж вельмі цешыўся. Чакаў сына! Нарадзілася дзяўчынка. Тры папярэднія жонкі пачалі насміхацца з „новай", рабіць непрыстойныя жарты, тым больш нахабныя, што муж нават не глядзеў ні на Мірку, ні на малое. Перавёў Мірку з дачкой у горшы пакой і перастаў іх наведваць.

Пражыўшы так яшчэ два месяцы, Мірка рашыла вярнуцца ў Польшчу адна. Ведала, што муж адвярнуўся ад яе назаўсёды.

— Хочаш ехаць? Калі ласка, — ухмыльнуўся Самуіл. — Толькі памятай — дзіцё астанецца ў нас. Мурма будзе мусульманкай, яна мая дачка. Дам ёй добры пасаг.

Мірка паехала адна. Золата ёй не шкадавалі.

Бацькі прывіталі дачку сардэчна, са спачуваннем. Толькі сэрца ныла за ўнучкай. Мірка не змагла жыць у гэтым горадзе, дзе даганялі яе думкі пра былое каханне, і нават у краіне, — рашыла выбрацца ў Амерыку.

За мяжой усё ўяўляла сабе, што Мурма загінула ў аўтамабільнай аварыі, не магла спаць з-за кашмарных сноў. Ездзіла па свеце, не магла ўцячы ад думак і адзіноты. Наведвала бацькоў, запрашала іх у госці, але спакою і радасці ні ў чым не знаходзіла.

У Штатах здала адпаведныя экзамены, каб і тут працаваць лекарам. Працу далі ёй у добрай бальніцы, шмат зарабляла, жыла выгадна і прыемна. Выйшла замуж за амерыканца, нарадзіла блізнят — хлопчыка і дзяўчынку. Бацькам бы прыглушыла думкі пра сваю першародную, але чарговыя святы даводзілі яе да слёз.

— Можа, калі б мы не паехалі з Самуілам у Ірак, жылі б у Польшчы шчаслівa? — пытае сябе і іншых. Каханне адно, жыццё другое...

**Аўрора**

# Мая прыгода ў Калінінградзе

Мая праца вымагае частых выездаў у камандзіроўкі ў розныя гарады, каб ладзіць узаемныя кантакты. І так паехаў я чарговы раз у Калінінград. У аўтобусе толькі двух з Польшчы, апошнія рускія. Калі выйшаў з аўтобуса і разглядаўся за знаёмым, які меў чакаць на мяне, каб забраць на начлег, перада мною, умела абмінаючы сваіх суайчыннікаў, з'явілася шыкоўная бландзінка, апранутая быццам манекеншчыца.

— Прапаную хату, недалёка, — сказала на ламанай польскай мове. — Будзе нядорага і прыемна, усяго 30 долараў. Ужо бяру таксі...

Асцерагаў калісь мяне знаёмы міліцыянер перад выпадковымі знаёмствамі дзеля прыемнасцей. Зацягне такая схільнага да раскошаў у прытон, адкуль рослыя малойчыкі выпусцяць яго адно ў шкарпэтках...

Рызыкую. Сядаем у забалочаную да нязнаймага „Волгу" з шахматнай паласкай. Не дзеля прыемнасці, а дзеля цікавасці еду я:

— Мне патрэбна шчырая размова з вамі і дзве–тры гадзіны сну; я — журналіст.

Бландзінка глянула на мяне, як на нейкага псіха.

— Заплачу, — дадаю збянтэжана.

Хвіліну едзем моўчкі.

— *Харашо*, — згадзілася, калі ўжо затрымаліся, — толькі без прозвішчаў і адрасоў. Называй мяне Анджэлікай.

Анджэліка жыве ў нанятай двухпакаёвай кватэры ў цэнтры горада. Жыллё ўладжана шыкоўна і чыста: мяккае святло, шырокі ложак...

— Працую на свой рахунак, не шукаю апекуноў, — гаворыць, паставіўшы бутэрброды і чай. — Вопыту абслугоўвання кліентаў набрала за тры месяцы практыкі ў Ольштыне. З саветамі не ваджуся; стараюся, каб ніхто не ведаў, як зарабляю на жыццё. Таму сама падбіраю кліентаў: сёння была на аўтавакзале, заўтра пайду на чыгунку ці ў аэрапорт — такім чынам не кідаюся ў вочы рэкецірам.

— Калі ты рашыла такім спосабам зарабляць на жыццё?

— Гэта нецікавая гісторыя...

— Нешчаслівая любоў?

— Гэта таксама. Быў такі мілы і добры, абяцаў залатыя горы. Калі пасля года супольнага жыцця я зацяжарыла, пабіў мяне і адышоў, забраўшы ўсе мае ашчаднасці. Мусіла выкінуць дзіця...

— А не магла нарадзіць?

— І што?! Паказвалі б мяне ўсюды пальцамі. У нас усё добра, пакуль грунт пад нагамі. А ведаеце, як у нас называюць адзінокую маці?

— Знаю: мать-одиночка.

— Не: мать-одноночка. Колькі ў гэтым пагарды! І з гэтага няшчасця ўсе цешацца: і бабы, і мужыкі. У такіх абставінах я і прыняла рашэнне.

— Так адразу?

— Гэта складаная справа. Пра цяжарнасць сказала маме, якая ведала майго нарачонага. Думала, што мяне зразумее. А яна мяне зусім выгнала! У мяне няма да яе жалю: мела і мае яна цяжкае жыццё. Было нас пяцёра. Бацька ўсё прапіваў. Аднойчы не вярнуўся дадому, знайшлі мёртвага на пуцях, п'яны папаў пад цягнік. Па слядах бацькі пайшоў брат. Мама баялася, што прывяду ёй яшчэ адну глотку для харчавання, таму мяне і выгнала. Трэба было кінуць вучобу і шукаць працу, каб жыць. Стала я прадаўшчыцай у краме. Аднойчы паехала пагандляваць у Ольштын. Там спаткала сяброўку, якая сказала мне, што шукаюць прыгожых дзяўчат. І так пачалося. Было цяжка, здзекаваліся ў таварыскіх агенцтвах. Пасля трох месяцаў вярнулася ў Калінінград і тут пачала самастойную дзейнасць. Выбіраю чужаземцаў, немцаў і палякаў...

— Нягледзячы на прыкры вопыт з палякамі?

— З палякаў за мяжу выязджаюць бізнесмены. Да таго ж думаюць яны, што я маю ахову. Увіхаюцца хутка, плацяць, і ўжо іх няма.

(...)

Раніцай, развітаўшыся са мною, Анджэліка падалася ў аэрапорт за наступным кліентам. Для яе час, гэта грошы.

**Андрэй Гаўрылюк**

# ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**19 мая**

1890 г. — нар. Хо Шы Мін, в'етнамскі палітык.

**20 мая**

325 г. — кесар Канстанцін Вялікі адкрыў сабор у Нікеі, які м.інш. вырашыў святкаваць Вялікдзень у першую нядзелю пасля першай веснавой поўні месяца.

1506 г. — памёр Храстафор Калумб, адкрывальнік Амерыкі.

1799 г. — нар. Анор дэ Бальзак, французскі пісьменнік.

1851 г. — нар. Эміль Берлінер, вынаходца грамплацінкі.

1900 г. — швейцарцы выказаліся ў рэферэндуме супраць абавязковай страхоўкі ад хвароб і нешчаслівых выпадкаў.

**21 мая**

1871 г. — блізу Люцэрна здадзена ў карыстанне першы ў свеце фунікулёр.

1904 г. — у Парыжы заснавана футбольную федэрацыю FIFA.

1921 г. — нар. Андрэй Сахараў, савецкі фізік і грамадскі дзеяч.

1927 г. — амерыканец Чарлз Ліндберг пасля беспераррыўнага 33,5-гадзіннага пралёту праз Атлантыку прызямліўся ў Парыжы.

**22 мая**

337 г. — памёр Канстанцін Вялікі, рымскі кесар.

1813 г. — нар. Рыхард Вагнер, нямецкі кампазітар.

1859 г. — нар. Артур Конан Дойль, англійскі пісьменнік.

1878 г. — румынская нацыянальная асамблея аб'явіла незалежнасць ад асманскай імперыі.

1885 г. — памёр Віктар Гюго, французскі паэт.

1924 г. — нар. Шарль Азнавур, армянска-французскі акцёр.

**23 мая**

1618 г. — пражскія пратэстанты выкінулі праз вакно Градчанскага замка двух кайзеравых намеснікаў, што стала зачэпкай для трыццацігадовай вайны.

1707 г. — нар. Карл Ліней, шведскі прыродазнавец.

1848 г. — нар. Ота Ліліенталь, нямецкі інжынер, першы планерыст.

1951 г. — падпісана кітайска-тыбецкі дагавор, у якім замацавана „вяртанне" Тыбета ў састаў Кітая.

**24 мая**

1543 г. — Мікалай Капернік атрымаў першы надрукаваны экземпляр сваё кнігі „De revolutionibus orbium coelestium" і ў той сам дзень вялікі вучоны памёр.

1686 г. — нар. Данель Фарэнгейт, нямецкі фізік, які збудаваў першы дакладны тэрмометр.

1844 г. — амерыканец Самюэль Морзэ перадаў між Вашынгтонам і Балтымарам (60 км) першую тэлеграму.

1956 г. — у Лугана адбыўся першы конкурс Еўравізіі.

1964 г. — у выніку панікі на футбольным стадыёне ў Ліме загінула каля 300 чалавек. Суддзя не прызнаў гола мясцовым.

**25 мая**

1681 г. — памёр Пэдра Кальдэрон, іспанскі драматург.

1889 г. — нар. Ігар Сікорскі, руска-амерыканскі авіяканструктар.

1917 г. — памёр паэт Максім Багдановіч.

1926 г. — нар. Майлс Дэвіс, амерыканскі джазавы трубач.

1963 г. — заснавана Арганізацыю афрыканскага адзінства.

**(Ш)**

**Народныя прыкметы надвор'я**

# Май

Мокры май — будзе жыта як гай.

Май халодны — год хлебародны.

Калі вольха раней распусціцца за бярозу, год будзе мокры, як наадварот — сухі.

Як дуб лісты разгарне — чакай халадоў.

Май лясы прыбірае, лета ў госці чакае.

Майская траўка і галоднага корміць.

Вясенні дождж лішні не бывае.

Позні росквіт рабіны — да доўгай восені.

На Макея туман і ўдзень мокра — усё лета будзе мокрае. Калі суха, то і лета сухое.

Калі ў маі здарыцца хоць адзін мароз, раёў пчаліных не будзе.

Калі першая навальніца прыходзіць з паўднёвым ветрам — вясна цёплая.

Вароны садзяцца на вяршыні дрэў — будзе цёпла, калі рассядаюцца на галінах — холадна; пры гэтым крычаць — на дождж.

Падборку зрабіў
**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

Узносы жыхароў горада Адэлайда ў Аўстраліі.

| | |
|---|---|
| 4605. Ян Карпінскі | — 40 аўстрал. дол. |
| 4606. Пятро Карпінскі | — 100 аўстрал. дол. |
| 4607. Андрэй Карпінскі | — 20 аўстрал. дол. |
| 4608. Мікалай Калеснікові́ч | — 50 аўстрал. дол. |
| 4609. Мікалай і Галіна Кандрусікі | — 100 аўстрал. дол. |
| 4610. Аксэнт і Параскева Чарнагалоў | — 50 аўстрал. дол. |
| 4611. Аляксандр Садоўскі | — 50 аўстрал. дол. |
| 4612. Феадосія Фролава | — 15 аўстрал. дол. |
| 4613. а. Міхаіл і м. Вольга Бурнос | — 200 аўстрал. дол. |
| 4614. Уладзімір і Зофія Акавіты | — 50 аўстрал. дол. |
| 4615. Ян Аршанскі | — 20 аўстрал. дол. |
| 4616. Уладзімір і Вера Калеснікові́чы | — 50 аўстрал. дол. |
| 4617. Лідзія Лесюк | — 15 аўстрал. дол. |
| 4618. Яўгенія Кедзерская | — 10 аўстрал. дол. |
| 4619. Павел і Яўгенія Юршо | — 50 аўстрал. дол. |
| 4620. Паўліна Махальская | — 50 аўстрал. дол. |
| 4621. Ананімны ўзнос | — 30 аўстрал. дол. |
| 4622. Ванда Пашкоўская | — 50 аўстрал. дол. |
| 4623. А. П. | — 20 аўстрал. дол. |
| 4624. Сцяпан Пашкевіч | — 45 аўстрал. дол. |

Усяго разам — 1015 аўстралійскіх долараў.

**Дзякуем.**

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прыснілася мне знаёмая, якая ўжо не жыве. Я стаю ў холе нашай працы. Бачу, а яна як бы сыходзіць па лесвіцы ўніз, туды, дзе быў калісьці бар. А я ж ведаю, што яна памерла. Апранутая ў бэжавую куртку, а на галаве мела хустку такога ж колеру. І яна мяне ўбачыла. Тады вярнулася ў хол, каб пагаварыць са мною. **Марыя**

Астронку! Мне прысніўся вельмі смешны сон. Быццам бачу я на сваёй кухні цэлую вялікую горбу тараканаў. Куча. Рыжанькія, маладыя. Цэлая піраміда — быццам мурашнік. Тараканы, хаця і маладзенькія, то вялікія, тлустыя. Я чула, што калі сняцца насякомыя, дык можна спадзявацца грошай. А ты што мне скажаш? **Мірaслава**

Марыя! Хаця бачыць нябожчыка ў сне — добра, бо абазначае, што будзе ў цябе спакойнае і доўгае жыццё, дык гэты твой сон не надта мне падабаецца. Тут ён як бы прадвяшчаў нейкае сутыкненне са смерцю, хваробай, нечым нядобрым. Можа, нехта, хто быў табе добра знаёмы, памрэ ці захварэе.

Міраслава! А твой сон добры. Уяві сабе, што тараканы прадвяшчаюць радасць і весялосць. Гэта вошы прадвяшчаюць грошы, а не ўсе насякомыя. Так што, прабач мне, старому, але на грошы пакуль што не разлічвай.

**Астрон**

# Віраванка з „р" і „у"



1. частка гітары, 2. рэчка, над якой Жалязова-Воля, месца нараджэння Ф. Шапэна, 3. горад на поўдзень ад Порта (Партугалія), 4. нацыя, якая пражывае на поўдні Нігерыі, 5. мера, напр. тэмпературы, 6. фокуснік, 7. каўпак на лямпу, 8. прапагандыст царкоўнай музыкі ў Польшчы, 9. жыве ў нары, 10. планета, 11. горад у Джунгарыі.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на віраванку з 12 н-ра:** Варшава, Валожын, крыжакі, Акінава, Маравія, мурашка, шакалад, паркаль, генерал, паланез, Паланга, патрава.

Кніжныя ўзнагароды высылаем: **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Міхалу Байко** з Беластока.

**Міні-даведнік:**

**Йоруба** — нігерыйскае племя.

# ПАРНАСІК

**Пётр Багроўскі**

Пётр Багроўскі жыве на Рутцы,
Дзе іграюць на дудцы;
Гэта прырода іграе,
Сябе і людзей праслаўляе.
Пётр пачуў гэту гармонію,
Як жывую сімфонію.
Не хацеў жыць у горадзе,
А толькі ў райскім агародзе.
Бацька даў яму частку,
Каб усё было ў парадку;
Каля сваёй хаты,
Каб Пётр быў шчаслівы і багаты.
Купіў ён сабе хату
Не вельмі багату.
Перавёз, паставіў
І нешта даставіў.
Пабудаваў яшчэ будынак іншы —
Ніколі не лішні.
Заняўся пчалярствам,
Не марнатраўствам.
Мёд у яго чысты і смачны —
Фактар вельмі важны.
Любіць ён прыроду жывую
І для яе працуе.
Каля Руткі прыгожа, спакойна
Цячэ рэчка Арлянка роўна.
Тут блізка хваіны,
Лугоў і даліны;
Унікальнае месца —
І нікому не цесна.
Каб у Англіі такі ўчастак
Быў бы вялікі парадак;
Там цэняць такое,
А не ліхое.
Пётр Багроўскі — інжынер меліяратар
І на роднай ніве араты.
У яго доме свойска адчуваю сябе —
Подыхам тут родным нясе.
Ёсць тут „Часопіс" і „Ніва" —
Чытае іх беражліва.
Мае многа сяброў,
Як родных братоў
У сваёй краіне
Як і ў Англіі-даліне.
Ганаруся Пётрам —
Жыць нам блізкім родам.
Яго жонка Эля — прыгожая, спакойная,
Верная, гасцінная, размоўная.
Дзеткі яго ад калыскі „тутэйшыя",
Беларусы найшчырэйшыя.
Жадаю многа шчасця Пятру і сям'і —
Нізкі, дружа, паклон ад мяне прымі.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**



**„Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.
**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові́ч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1996 r. upływa 5 czerwca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка



*— Дзядуля, вы не скажаце, куды пайшла цывілізацыя?* Мал. А. ВАСІЛЕНКІ

## Сяло

Выйшаў на вуліцу, каля хаты,
Сеў я на лаўку адпачыць.
Бачу, юнец нейкі калматы
У рове ля плота ляжыць.

І я патэпаў да дзіцяці,
Хацеў яго з зямлі падняць,
А ён як выскачыць з-пад плота:
— Ты ё... такая тваю маць!

А я пытаю: — Мой сыночак,
А дзе падзеў ты сваю маць?
— Мая мамуля — край свабодны,
Дзе ўдоволь можна пагуляць.

— Ты ж не гуляеш, даражэнькі,
Пад плотам у гразі ты ляжыш,
Ты малады і шчэ дурненькі,
З такой свабодай не дружы!

І падымаецца п'яненькі,
Ды кідаецца стрымгалоў:
— Я вось атрымаў „куранёўку"
І так напіўся — будзь здароў!

Дык я са злосцю да дзіцяці:
— Хутка, п'янюга, уставай!
А ён у адказ стаў верашчаці:
— П'яным мяне не абзывай!

Польшча п'янюгаў ужо не мае,
Яна з культурай да нас ідзе,
„Памрочнасцю яснай" называе,
Калі напіўся нехта дзе.

Ты многага не разумееш,
Ты ад камуны чалавек,
І новага асэнсаваць не ўмееш,
Хаця рабіў ты ўвесь век.

А я яму на гэты словы:
— Хлопча, спыніся, не дурэй,
Ты ж ужо дастаў за аднову,
Што аж пацякло з вушэй!

І вось такая вам аднова
Ты, мой сыночак дарагі!
Ляжыш сабе каля гарода,
Хаця не варацца мазгі.

**Ніна МІНЬКО**

## Паклічце Васю!

Трэба ж! Пазваніла мне якраз, як мяне дома не было. Прыходжу з магазіна, жонку не пазнаць: маўчыць, чмыхае.

— Званіла тут табе, — нарэшце не вытрымала яна, — Ліля нейкая: паклічце Васю... Няма яго, кажу. Не, павінен быць дома, паклічце... Што скажаш, бабнік?

Выручыў зноў-такі тэлефонны званок. Узяў трубку, „алё!" кажу, а там цішыня, а праз хвіліну і зусім трубку паклалі. Я хацеў зрабіць тое ж самае, але ў апошнюю хвіліну перадумаў. Патрымаў крыху маўклівую трубку каля вуха, потым паклаў яе і вярнуўся да жонкі:

— Дык хто гэты Коля? Званіў, цябе прасіў...

— Які Коля?

— Не ведаеш? І тэлефон яму не давала? Прозвішча нават яму вядома, не тое, што імя!

— Кажаш, Коля? Дык гэта ж Мікалай Іванавіч... Той самы...

— Які той самы? — як не падкінула мяне.

— Быццам, ты не памятаеш!.. Ну, той, што з лесу выводзіў, як заблудзілася ў грыбах... Прыстойны такі чалавек...

— Прыстойны ля жонкі сядзіць.

— Ён жа ўдавец!..

Я забегаў па хаце, як ашалелы. Не магу сябе ўзяць у рукі — хоць крычы. Але тут дзынкнуў тэлефон.

Зняла трубку жонка. Паслухала-паслухала ды як закрычыць:

— Я вам паклічу Васю! Я вам паклічу!

**Васіль ФЕРАНЦ**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Які гэта чалавек, што ўступае, калі не мае рацыі?

— Мудры.

— А які ўступае, калі мае рацыю?

— Жанаты.

* * *

Размаўляюць два адвакаты на міжнародным юрыдычным кангрэсе:

— Якое найвышэйшае пакаранне прадбачвае ваш закон за бігамію?

— Дзве цешчы.

* * *

Жонка робіць мужу авантуру:

— Ведаю ўсе твае хітрыкі, якімі апраўдваешся, калі вяртаешся позна ноччу! Цікава, што выдумаеш сёння?

— Нічога.

— І ты хочаш, каб я ў гэта паверыла!

* * *

— Дарагая, — гаворыць муж жонцы, — не ўяўляю сабе, што ты магла б паказацца на канцэрце другі раз у той самай спадніцы...

— Ах, каханы, цешуся, што так думаеш!

— Таму купіў білет толькі сабе.

* * *

Да ветэрынара прыходзіць Коля з таксай:

— Абрэжце ёй хвосцік! — загадвае.

— Што вы! Такса павінна мець хвосцік.

— Кажу абрэзаць, і ўсё!

— Як жа ж будзе яна выглядаць без хвосціка... Нічога не разумею.

— Нічога і не трэба разумець. Заўтра да нас прыязджае цешча і дома не можа быць ніякіх прыкмет радасці.

* * *

— Каханая, што табе купіць на імяніны?

— Нічога мне не купляй, у мяне няма грошай.






*Белавежскія графіці.* Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

## Таямнічасць раскрыта

— Хвядос, што гэта за гузак у цябе пад вокам? — пытаецца Апанас.

— Сутыкнуўся ўчора з неапазнаным апаратам, — адказвае Хвядос.

— І адкуль яны стартуюць, гэтыя апараты? — цікавіцца Апанас.

— З кухні, браток, з кухні, — удакладняе месца старту дзядзька Хвядос.

**П. Антонік**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Часамі ў тваёй рубрыцы паяўляецца матыў нявернасці ў каханні. І часта на яве ці ў падсвядомасці ён выклікае пытанне: лепш ведаць пра здраду, ці не? Ды і наогул, ці можна быць разам пасля такога?

У мяне здарылася штосьці падобнае на тое, што здарылася Элі з „Нівы" н-р 18. Мы з маім хлопцам хадзілі паўтара года. Не толькі што ўсе лічылі нас парай, але ўжо гаварылі мы і пра вяселле. Справа была сур'ёзная. Я ўжо не такая маладзенькая дзяўчынка, як Эля, і не казала свайму хлопцу, што „пасцель — пасля шлюбу". Мы з ім сустракаліся нармальна, як муж з жонкай, і мне ў галаву не прыйшло, што аднае дзяўчыны яму замала.

І вось аднойчы вяртаюся я з працы, а ў нашай хаце сядзіць нейкая незнаёмая, даволі прыгожая жанчына. Маці, уся ў нервах, кажа, што яна прыйшла да мяне, але ўжо ўсё паспела маме расказаць. Дзякуй Богу, што не было ў хаце бацькі!

Аказваецца, гэта жанчына ўжо даўно з'яўляецца каханкай майго хлопца. Жыве адна, бо разведзеная, а ён у яе пасецца цэлымі начамі. Нават паспела ўжо зрабіць аборт, бо зацяжарыла, але кавалер сказаў, каб перарвала цяжарнасць, бо яшчэ яны да жаніцьбы „не даспелі". А чаму не даспелі? Яна ж старэйшая за мяне...

Мяне быццам нажом хтосьці разануў па сэрцы. Як жа ён так мог? Пазнаёміўся з той бабай, калі ўжо мне прызнаўся ў каханні, калі мы сталі сабе такія блізкія. А, зрэшты, мог бы мне адразу сказаць, што яму спадабалася іншая. Я б мо лягчэй усё перажыла. Мо думаў, што я буду яму кідаць калоды пад ногі? І таму не сказаў? Не магу паверыць, што мог адначасна кахаць абедзве.

Але ж, падумай, чамусьці не хацеў мяне кідаць. Значыць, нешта яго трымала. Мо, каб гэтая баба не прыйшла да нас, дык было б мне лягчэй: нічога б я не ведала, спакойна выйшла замуж і жыла, як чалавек. У тваім куточку я калісь чытала, што многія лічаць: лепш нічога не чуць і не ведаць, і тады ўсё будзе добра. А так'я не магу сабе знайсці спакою. Сяджу цэлымі вечарамі адна, бо на свайго былога хлопца глядзець не магу. Ад часу, калі я даведалася, што ў яго ёсць другая каханка, ніводнага разу я не сустрэлася з ім у нейкіх больш інтымных абставінах. Прыходзіць да нас, чакае мяне часта пасля працы, але я не дапускаю яго да ніякіх размоў на „нашы" тэмы. Нават ніводнага разу мы ад таго часу не пацалаваліся. Проста я і ведаць яго не хачу. Прыходзіць да нас у хату, але я адношуся да яго, як да звычайнага сябра. Але, чула я, што да той каханкі ён перастаў хадзіць...

**Наталька**

Наталька! Перастаў хадзіць да тае другой, бо была яна для яго толькі дадаткам да цябе. Быў спакойны, калі хадзіў і да цябе, і да яе, а калі зразумеў, што можа страціць цябе назаўсёды, другая каханка перастала яму быць патрэбная. Нумарам адзін была ты!

Ты пытаеш, ці лепш ведаць пра здраду партнёра. У тваёй сітуацыі напэўна варта ведаць, нават дзеля таго, каб як мага трапна выбраць сабе мужа. Калі б такі чалавек стаў тваім мужам, так і глядзі, што трэба было б адлічваць ад заробкаў на яго аліменты.

Іншая справа — калі б вы ўжо былі мужам і жонкай, мелі дзяцей. Тады мо і сапраўды было б шкада развальваць сям'ю. Тады мо лепш было б не ведаць... Але гэта і так слабая пацеха.

**Сэрцайка**